
Бежанства → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Каля Гарасімавіч → 9


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3079) Год LX Беласток, 17 мая 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





**Размова з прафесарам Янам Чыквіным, старшынёй «Белавежы» якому 18 мая спаўняецца 75 гадоў.**

**«Ніва»: — Вы ствapылі міф дубіцкага хлопца, хаця Вы і бельскі, і варшаўскі, і беластоцкі... Ці ёсць той міф вёскі і моманту пад «старым вязам»?**

**Ян ЧЫКВІН:** — Гэта пытанне цікавае нават для мяне самога. Мая біяграфія мае шэраг пластоў. Я жыў на вёсцы першыя дзесяць гадоў. Потым недзе ад 1950 г. да 1959 г. у Бельску, потым пачынаецца варшаўскі перыяд — 1959-1964 год, потым, з маленькім перапынкам, я вяртаюся, жыву ў Беластоку, потым зноў тры гады ў Варшаве, потым зноў вяртаюся ў Беласток. І пачынаючы з 1984 г. я дванаццаць гадоў зноў у Варшаве... А так — або Беласток, або Бельск. Звязана гэта і з маёй працай — ад 1985 г. да 1997 г. я быў супрацоўнікам Варшаўскага ўніверсітэта. Цяпер я ад 1990 г. жыву ў Бельску. Так што таго вясковага майго перыяду толькі першыя гады майго жыцця. А другая справа, што маё маленства, мае дзіцячыя гады былі перарваныя. І мая паэзія ў вялікай ступені з'яўляецца перажываннем тых дзіцячых, юначых гадоў, якія я павінен перажыць на вёсцы, якія былі спынены — я іх перажываю ў творчасці, у паэзіі. Ствараю нейкі міф, вясковага жыцця, вясковага хлопца, дзіцяці. Міф. Можна гэта назваць яшчэ больш трапна — гэта пэўная эстэтызацыя, ідэалізацыя вясковага жыцця. Хоць тут няма ніякага перабольшвання ў гэтай ідэалізацыі, таму што вясковае жыццё мае свае несумненныя дадатныя бакі. Для мяне найцікавейшым момантам вясковага жыцця, у прыватнасці майго жыцця, было адчуванне свабоды. Вольнасці. Я, як вясковае дзіця, не адчуваў — мае бацькі ў нічым мяне не стрымлівалі. Я меў поўную свабоду. Даходзіў да межаў трагічных. Зараз пасля вайны — я народжаны ў ваенны перыяд — былі такія сітуацыі, што па полі, па лесе, па карчах было шмат амуніцыі, бомб, якія ляжалі як вялікія парасяты, а мы ж раззбройвалі гэта! Сваімі рукамі. Быў выпадак, што цуд нас практычна выратаваў. Я і Грыша Кірылюк (які ўжо не жыве) знайшлі недалёка ад вёскі, 20-30 метраў у пяску, толькі трошкі выставала жалеза, такі снарад, і каб з ім пабавіцца, расклалі вогнішча каб яго ўзарваць. Вогнішча ўжо гарыць, а мы насыпалі горачку пяску і за яе схаваліся. Гэта быў наш акоп. Добра, што дарогаю ехаў нейкі гаспадар, раскідаў вогнішча, пагнаў нас. А сярод маіх дубіцкіх калег каму руку адарвала, каму вока выпаліла. Але гэта вынікала са свабоды. Ніхто нас не пільнаваў. Бацькі занятыя, а тым болей калі сям'я вялікая — з малым не цацкаюцца — ідзі куды хочаш. Не было так: «Ты прыйдзі, бо трэба абедаць». Калі захацелася есці, ішлося ў агарод — чалавек наеўся груш, яблык, сліў, морквы, шчавуху... Цэлымі днямі я прападаў, цэлае лета над рэчкаю. І па сённяшні дзень маю клопаты з рэўматызмам :-). Лавілі мы голымі рукамі рыбу, выцягвалі з нораў ракаў... Свабода. Гэта міф і не міф. З боку можа здавацца што гэта нейкае прыўкрашванне, але так было. І тыя сцэны з таго маладога жыцця — маладыя людзі лазяць па дрэвах, заглядваюць у гнёзды, ідуць уздоўж рэчкі з кіямі, пераскакваюць праз рэчку, раскладваюць агонь, пякуць бульбу... Калі б я нарадзіўся ў Бельску, гэтага не было б. Прытым у нас была вялікая сям'я (чатыры сёстры і брат), я быў наймалодшы, я не то што адчуваў нейкую апеку, але мяне і не заганялі асаблівa да фізічнай працы, было каму рабіць, дарэчы, яе не было аж так многа, бо мае бацькі былі небагатыя. Былі свой конь, каровы, авечкі, гусі, куры, сабака... — усё тое, што ў гаспадарцы. Клуня, сена, дзе летам спалі хто хацеў, тата быў пчаляром, быў свой мёд, мелі мы дагледжаны садок пры хаце, адзін з найбольш дапільнаваных у Дубічах. Галаду не было. Мама навaрыць раніцай кашы, пакіне ў двайняках, там стаіць мёд... Ежа давала сілу. Вось і ёсць у маёй паэзіі перажыванне маіх перапыненых дзіцячых і юначых гадоў. Але ёсць і перажыванне маіх студэнцкіх гадоў у Варшаве. Варшава ў маіх вершах выступае, нават у апошніх — «Ёкнула сэрца на Замкавым пляцы...»

**— Калі Вы ператварыліся з Івана ў Яна?**

— Гэта чыста філалагічная праблема. Я сапраўды па нейкай інерцыі з пачатку, як у нас на вёсцы гаварылі на тых хто ў пашпарце мелі «Ян» — «Іван», і мой дзядзька таксама быў Іван. Калі пачаліся друкаванне мае першыя тэксты, падпісаўся я Іванам. Але зразумеў, што калі з'яўляецца псеўданім «Янка Дубіцкі», то і «Янка» і «Дубіцкі» — гэта псеўданім. Але калі «Іван Чыквін», выглядае што «Іван» гэта псеўданім, а «Чыквін» гэта нармальна, але ў звязцы — не. І я пайшоў па класічнай дарозе — калі псеўданім датычыць прозвішча, дык і імя можа быць псеўданімам. Я па пашпарце Ян. Гэта калі даспела мая філалагічная свядомасць.

**— Вы пісалі раней, пакуль Вас адкрыў на сустрэчы ў Бельскім белліцэі рэдактар «Нівы» і заснавальнік «Белавежы» Георгій Валкавыцкі.**

— Было такое. Я, канешне, пісаў да гэтага. Пачаў пісаць, калі быў у пятым-шостым класе. Памятаю мой першы «вэршык», падобна як і Віктар Швед, які напісаў верш і настаўніца яго пахваліла. На ўроку я падпісаў свой рысунак сваім вершам. Настаўніца прачытала і сказала, што вельмі цікава, добра. Гэта ў душу маладога чалавека падае, у пэўны, відаць, добры час. Нейкая расада засаджваецца, дае свае парасткі.

**— Таму такія важныя сустрэчы аўтараў у школах, паказанне маладым аўтарам сваіх твораў дасведчаным аўтарам.**

— Я падпісваў псеўданімамі свае вершы, саромеўся, — дзе ж тут Беласток, слова друкаванае... Яно здаўна было нейкае таемнае, асвечанае. Пашана да кнігі ў мяне была ад пачатку майго нараджэння. Былі кнігі дома. Глядзіш на кнігу — такое гэта цікавае, таемнае; як гэта ўзнікае такая кніга? Была ў нас, між іншым, геаграфія рускіх аўтараў, дзе былі строі жаўнераў, князёў, — гэта так цікава, як гэта робіцца? Няўжо такія людзі? Таких у Дубічах няма! Пачынае дзейнічаць фантазія. І пашана да кніжкі.

**— І Вы сталі філолагам. З «белавежцаў» філолагамі з'яўляюцца, між іншым, таксама Аляксандр Баршчэўскі, Сакрат Яновіч. Ёсць такі здымак з архіва літаб'яднання, з літаратурнага семінара, на якім Вы іграеце ў шахматы. Хто тады быў Вашым сапернікам у гульні? Ці тое саперніцтва было таксама і ў іншым планах, у літаратуры?**

— Нашы ранейшыя семінары мелі характар нейкай «сімультаны», калі ідзе пра формы сустрэчы. Не была гэта толькі «гаварыльня», але найперш дыялогі. Сустракаліся, каб пагаварыць, нават расказаць анекдоты. Расказвалі цікавінкі са свайго жыцця, хто над чым працуе, якія мае поспехі. Але калі былі даўжэйшыя перапынкі, была кава, гарбата, уставалі, хадзілі, не сядзелі як у школе ў партах. Тыя семінары, калі старшынстваваў Барскі, былі і абавязковыя, і неабавязковыя. І былі шахматы, і былі шашкі. І Барскі, і Яновіч гулялі ў гэтыя ігры. У ГП БГКТ заўсёды была шахматная дошка, якая нас чакала. Была такая творчая свабода. І гэта падабаецца якраз творчым асобам. А ці выказвалася ў нас нейкае саперніцтва? Я думаю, што саперніцтва заўсёды выказваецца. Думаю, што кожны паэт, кожная асоба, якая нешта «крэмзае», хоча быць лепшай ад іншых. І ў гэтым няма нічога кепскага. Наадварот. Гэта якраз паказвае, што асоба жывая, што мае ў сабе патэнцыю. Што не аглухла і не стала сляпой, што бачыць: чытае вершы Алесь Барскі і часам халера бярэ: «а чаму я так не напісаў?!»

**— «І чаму я не выступаю так як ён?!»**

— І чаму я не ўмею так сказаць анекдот? Гэта і ёсць тая здаровая канкурэнцыя. Быў нейкі штуршок да творчасці. Гэта якраз падрывала да творчасці. Хацелася і друкаваць так часта як Барскі, і пісаць можа не так як ён, але пісаць. І выдаваць кніжкі. Гэта быў вялікі штуршок для маладзейшых. Імпульс для творчасці. Калі некаторыя сябры прыходзяць і сядзяць пасіўна, гэта памылка. Павінна браць халера: «Той выдаў кніжку, той выдае кніжку, у мяне няма матэрыялу!» Ну, дык напішы. Выдадзім. Пастараемся выдаць. Паможам выдаць. Канкурэнцыя чыста псіхалагічнага характару, здаровая, была, была патрэбная і яна зрабіла вялікую пазітыўную работу. Бо калі канкурэнцыя нейкая зламысная, нейкія даносы, нейкае аплёўванне за плячыма — такая нам была чужая.

**— Ведаеце верш, які з загалоўках вашых кніг склаў Юўген Вапа : «Іду да святой студні з кругавою чарай...»?**

— Тое, што больш тонкія, «прыдзірлівыя» асобы бачаць, што назвы маіх паэтычных кніжачак укладваюцца ў нейкі асэнсоўваны цяг, што ёсць нейкая для іх супольная стрыжнявая лінія — гэта вялікі плюс для іх. Бо так яно і ёсць. Маю смеласць і адвагу сказаць, што ў дачыненні да маёй паэзіі мае першыя зборнікі паказваюць як бы шлях пэўнай асэнсоўваючай самой сябе лініі і лірычнага героя, які ўваходзіць у сталае жыццё. Не мушу саромецца першых зборнікаў, вершаў. Наступныя кніжкі ідуць па нейкай гарызантальнай, уздымаючайся лініі. Тое, што Юўген заўважыў, што ў саміх назвах нейкую метафарычную сэнсоўнасць, сведчыць, што ён бачыць глыбей пэўныя з'явы.

**— Віншуем Вас з юбілеем і жадаем моцунку і натхнення на наступныя плённыя гады!**

Размаўляла Міра ЛУКША





# Паказуха

Гэта было ў далёкім 1983 годзе. У нашую роту прыпёрся з азвярэлымі вачамі нейкі афіцэр і доўга крычаў на нашых афіцэраў. Махаў рукамі, пагражаў нечым і аддаваў загады. Нармальнаму чалавеку разабрацца ў тым, што ён хоча, было цяжка. Але тыя жаўнеры, якія праслужылі больш года, адразу ўцямілі сэнс яго мацерных слоў. Ясна, што будзе баявая трывога і прыедзе нейкі маразматык-генерал правяраць боегатоўнасць нашай роты. Прычым, прыедзе ён нечакана, як той гогалеўскі рэвізор — інкогніта, ну, і зразумела, што баявая трывога таксама будзе нечаканай. Крыху пазней наш камандзір роты так і заявіў:

— Заўтра раніцай, роўна ў чатыры гадзіны пятнаццаць хвілін, будзе аб'яўленая нечаканая баявая трывога. Таксама да нас тайна прыедзе правяральшчык. Таму ўсё павінна прайсці на дзесяць балаў. І хай толькі хто падвядзе, то я таго згнаю, скаты. Усё зразумелі, падлы?!

— Так, зразумелі, — хорам адказалі мы і пачалі рыхтавацца да нечаканай трывогі.

Самае цяжкае было давесці да ладу тэхніку. Жывую сілу, пакуль яна жыве, так-сяк раскалыхаць заўсёды можна. Ну а баявая тэхніка ад жаўнера адрозніваецца тым, што на яе аніякія пагрозы камандзіраў не дзейнічаюць. І калі паліва паўгода прадавалі направа і налева, а тэхніку нават не спрабавалі пусціць у ход, то зараз такая задача выглядала амаль што нерэальнай. Але добра пастараўшыся рухавікі ўдалося запусціць.

— Рухавікі не глушыць, — загадаў камандзір. — Хай працуюць ажно да ранку. І як будзе нечакана абвешчана баявая трывога, то праз сорак пяць хвілін уся тэхніка павінна выехаць на пляц.

Жаўнеры ў гэтую ноч ляглі ў ложак апранутыя, у ботах і з аўтаматамі на грудзях. Каб не губляць часу на звычайныя ранішнія працэдуры, калі будзе нечаканая трывога. І нават афіцэры начавалі ў казармах. Усё рабілася для правяральшчыка. Усё было падрыхтавана. І жаўнеры, і тэхніка, і дзірачкі на пагонах для новых зорак за добрую службу.

Праўда, у рэальнасці ўсё аказалася наадварот. З усёй падрыхтоўкі спрацавала толькі нечаканая баявая трывога, якая прагучала дакладна ў чатыры гадзіны пятнаццаць хвілін. Усё астатняе пайшло з дакладнасцю наадварот. Тэхніка, якая ўсю ноч працавала ў чаканні трывогі, пры выездзе з ангараў пачала глухнуць, стукацца адна ў другую і звальвацца з дарогі. Жаўнеры, што ўсю ноч апранутыя вылупіўшы вочы чакалі нечаканай трывогі, акурат да гэтага часу пазасыналі і пачуўшы сігнал як сонныя мухі мітусіліся, гублялі зброю і не маглі ўцяміць што адбываецца. Афіцэры крычалі на ўсіх нецэнзурнымі словамі і таксама не ведалі што канкрэтна ім трэба рабіць. І нават правяральшчык не з'явіўся. Відаць таксама праспаў нечаканую і такую доўгачаканую баявую трывогу.

Затое па паперах усё было ідэальна. І дзіркі на пагонах спатрэбіліся, бо правяральшчык усё ж прыехаў назаўтра. Убачыў чысцюткі пляц, свежапафарбаваную тэхніку, і не толькі тэхніку, бо да яго прыезду нават траву пафарбавалі, бо камандзіру здалося, што тая недастаткова зялёная. Убачыў чысцюткія каўнерчыкі жаўнераў, памяліўся і ўсіх пахваліў. Маўляў, такое войска і такую краіну ніхто не пераможа.

Тая краіна не праіснавала з таго часу і дзесяці гадоў. Уся тая паказуха толькі паспрыяла яе хутчэйшаму скону. Бо маразм рана ці позна дае свае вынікі. І нават пафарбаваная ў зялёны колер трава таксама сохне. Толькі яна ўжо нават на сена не годная.

Усё гэта я ўспомніў, калі глядзеў паказуху нашых дзён. Гэтыя пампезныя і маразматычныя парады ў гонар сямідзесяцігоддзя перамогі, што прайшлі ў Мінску і Маскве, і якія транслявалі па ўсіх галоўных айчынных тэлеканалах. Нічога не памянялася. Паказуха ў горшым выглядзе. Не мае шанцаў ні такое войска, ні такая краіна.

І як пацвярджэнне гэтаму, гэта еўрапейскі рэйд на Берлін расійскіх байкераў. Паехалі то яны на амерыканскіх, еўрапейскіх і японскіх матацыклах. І колькі не завешвай яго георгіеўскімі стужкамі, стужкі тыя нікому не цікавыя. А вось надпіс „Харлі-Дэвідсан”, або „Хонда”, цікавіць усіх. Вось і ўся перамога. Вось вам і парад. Сапраўдны парад сапраўднай тэхнікі. На „Харлі-Дэвідсане” то і да Берліна даедзеш, і да Вашынгтона, і да Масквы. А на расійскім „Іжы” і з гаража выехаць праблематычна.

Віктар САЗОНАЎ

# Яны не хочуць хацець



Мы ўжо ведаем, хто пераможца першага тура польскіх прэзідэнцкіх выбараў — Павел Кукіз! Хаця два іншыя кандыдаты, Дуда і Камароўскі, апярэдзілі яго агульным лікам галасоў, нельга іх лічыць пераможцамі. Першы таму, што не перавысіў ані на міліметр узроўню падтрымкі, якую гадамі мае ягоная мацярынская партыя Права і справядлівасць; другі таму што ён быў не ў стане ўтрымаць высокай кацiроўкі, якой карыстаўся ў даследаваннях у пачатку выбарчай кампаніі. Абодва з іх, як выкінутыя з Балтыкі фукусы, у той жа час кінутыя на пляжы прыбоем і адбоем той самай марской хвалі. Дуду вынес у другі тур выбараў яго рашучы ПіСаўскі электарат. У адрозненне ад гэтага, адыходзячая хваля неспрыяльная Камароўскаму і ўскосна ГП, не была настолькі моцная, каб адмесці яго ў марскія глыбіні. Яны ляжаць побач адзін з адным так як два палітычныя фукусы на пляжы, чакаючы наступных прыбояў выбарчай хвалі. Адзін яшчэ свежанькі, поўны надзеі. Другі крыху прывялы, але і не губляючы адвагі. Каго прыбой падштурхне на прэзідэнцкае крэсла — пакуль невядома. Тым не менш, можна быць упэўненым, што адзін з іх будзе змецены магутнай хваляй, на якой так бадзёра плыве Павел Кукіз.

Серфінг заключаецца ў тым, каб як найдаўжэй утрымацца на прыліўнай хвалі. Справа ў тым, каб не дазволіць ёй выкінуцца на бераг. Толькі што гэтае мастацтва заслугоўвае можа толькі апладысментаў сабранай на беразе аўдыторыі, таму што служыць толькі задаваленню серфуючага. Але рана ці позна сыдзе Кукіз на сушу. Пытанне толькі, ці не пакінуць яго ахвочыя для забавы гледачы. Прагулкі па цвёрдай зямлі не гэтак уражваюць, як эквілібрыстыка на ўздыме хвалі. А палітыка, у прыватнасці палітыка Польшчы, патрабуе выдатных здольнасцей арыентавацца ў няўпэўненых формах берагавой лініі і адбоямі ды прыбоямі чарговых хваль з непрадказальнымі амплітудамі ідэалагічных і светапоглядных эмоцый. Агідная неўпартыйненне Дзяржавы, супраць чаму справядліва выступае Кукіз, гэта факт. Але неабавязкова выкананне яго пастулата аднамандатных акруг верне яму незалежную ад палітычных ваганняў незалежнасць і сілу. Па-першае, грамадзяне павінны мець патрэбу ў такой дзяржаве.

Быць кандыдатам на пасаду прэзідэнта ў Польшчы і ў той жа час цяперашнім прэзідэнтам, гэта як спрабаваць з'есці смачны кавалачак сыру і ў той жа час захаваць яго на потым. Апрача Браніслава Камароўскага роўна ласых на яго пасаду знайшлося дзесяць іншых кандыдатаў. Кожны з іх хацеў бы пасмакаваць гэтага сыру, які трымае прэзідэнт, як той крумкач з казкі «Крумкач і лісіца» Лафантэна — у дзюбе — і нават не думае падзяліцца з кімсьці сваёй здабычай. — «Бывае часта расчараваным, / Хто любіць быць пахваленым. / Крумкач меў велізарны сыр у дзюбе / Ліса нібы сціплая / Прыйшла да яго і кажа: мілы браце, / Я не магу нацешыцца, калі я гляджу на цябе».

Нядаўнія дэбаты з прэзідэнтам Камароўскім, які змагаўся за пераабранне, якой дамагаліся ўсе іншыя кандыдаты ў прэзідэнты, мелі быць такой хітрай спробай забраць крумкачу сыр. Паколькі крумкач не жадаў прыляцець, дэбата ператваралася ў нараду галодных лісіц, як абскубці крумкача не толькі з сыру, але і з пёраў. Пёраў тады надзерлі хітрыцы больш, чым мае ўся папуляцыя крумкачоў у Польшчы. І, нарэшце, скончылі адна адной да глотак. Меў рацыю дзеючы прэзідэнт Камароўскі, які ў дранні антысеміцкіх, русафобскіх, гендэрафобскіх і мяшчанскіх польска-польскіх пёраў не ўдзельнічаў. Сёння мы ведаем, што пакет лісіц-хітрыц рассыпаўся да аднаго — да кандыдата Дуды, які аскомы на прэзідэнцкі сыр не згубіў. Пакуль ён не заняты пераможваннем, абяцае палякам Польшчу, якую хочуць палякі. Але не кажа, што яны хочуць. Кажа пра тое, чаго яны не хочуць, пляцё, што мае сліны ў пустым дзюбаку. Паводле яго слоў, сёння палякі не жадаюць пазнейшай Польшчы з прабіркі. Яны не хочуць скарацiцца як нацыя да памеру 10-мільённай Беларусі. Не хочуць працы падоўжанай да 67-гадовага ўзросту. Але і не хочуць жыць у галечы. Не хочуць таксама хварэць і быць непісьменнымі. Як быццам, на яго думку, палякі, замест хацець, аддаюць перавагу нехаценню. Цікава, ці не захочуць яны мець яго прэзідэнтам?

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Перад самітам у Рызе

19 мая пачынаецца чарговы саміт Усходняга партнёрства (УП). Пасля Прагі, Варшавы і Вільні, прадстаўнікі ўлад дзяржаў-членаў ЕС і Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны будуць дэбатаваць у гэты раз у Рызе. Маюць тут абмяркоўваць, у прыватнасці, пэўныя перспектывы адмены віз для Грузіі і Украіны і ўвядзенне спрашчэння візавага рэжыму з Беларуссю. З увагай нядаўна я прачытаў у гэтым кантэксце ў біюлетэні Польскага інстытута міжнародных адносін думку яе аналітыка, спецыялісткі па еўрапейскай палітыцы суседства Альжбеты Кацы: «Калі візы будуць адменены, ЕС павінен распрацаваць прапанову палягчэнняў пры эканамічнай міграцыі і паляпшэння прыгранічнай інфраструктуры ды прымяненне консульскіх працэдур». Прадбачвае: «У Рызе Грузія і Украіна, верагодна, атрымаюць блізкія тэрміны адмены віз з-за іх прагрэсу ў выкананні ўмоў, хаця, асабліва ў выпадку Украіны, ёсць рызыка адтэрміноўкі рашэння да таго часу, пакуль стабілізуецца сітуацыя ў Данбасе. Для ўкраінскага грамадства адмена віз была б важным жэстам, дзякуючы якому павысілася б падтрымка для ЕС і цяперашняга праеўрапейскага ўрада. Калі Украіна выканае тэхнічныя крытэрыі, дзяржавы-члены ЕС павінны дамовіцца пра бязвізавы рэжым нават у канфліктнай сітуацыі — у выпадку павелічэння нерэгуляванай міграцыі можна прымяніць пункт аб узнаўленні віз». Дадала таксама: «У краінах, якія знаходзяцца ў працэсе спрашчэння візавага рэжыму, трэба паправіць функцыянаванне пагадненняў. ЕС павінен спачатку прыняць меры для паляпшэння візавай інфраструктуры, напрыклад, праз увядзенне супольных цэнтраў прыкладаннняў, у якіх таксама можна было б падаваць заяўкі аб прадстаўленні прытулку; па-другое — у большым маштабе распрацоўваць праекты ў галіне развіцця прыгранічнай інфраструктуры і пабудовы эфектыўнай сістэмы кіравання міграцыяй. Беларусі, якая не падпісала генеральнага пагаднення аб адносінах з ЕС, можна прапанаваць заключэнне партнёрства па мабільнасці і ў гэтых рамках развіваць такое супрацоўніцтва. Еўрапейская камісія павінна ў сваю чаргу паклапаціцца аб рэальным спрашчэнні візавых працэдур дзяржавамі-членамі і паскорыць працы па флагманскай ініцыятыве УП па кіраванні межамі, здабываючы дадатковае фінансаванне ў міжнародных фінансавых установах».

Што на гэта Беларусь? У ходзе перагавораў 17 красавіка Аляксандра Лукашэнкі ў Мінску з еўракамісарам па пытаннях пашырэння і палітыкі суседства Іаганесам Ганам, беларускі лідар выказаўся «за больш цеснае супрацоўніцтва ў рамках Усходняга партнёрства на аснове вырашэння эканамічных праблем». У рамках Усходняга партнёрства ён асабліва зацікаўлены новымі тэхналогіямі, выкарыстоўванымі ў грамадзянскіх мэтах. Прысутнасць прэзідэнта Беларусі на саміце ў Рызе да моманту напісання мною гэтага тэксту заставалася адкрытым пытаннем. ЕС надалей сваё супрацоўніцтва з Беларуссю, а таксама адмену візавых і фінансавых санкцый супраць каля двухсот прадстаўнікоў беларускага рэжыму (у тым ліку Лукашэнкі) ставіць у залежнасць ад вызвалення і рэабілітацыі гэтай краінай палітвязняў. Перад сёлетнім самітам была прынята пазіцыя, што запрашаецца краіна, а не пасада, так што ў выпадку Беларусі не Аляксандр Лукашэнка асабіста, але гэта ён вырашае, хто будзе ў Рызе прадстаўляць краіну.

Яшчэ ў пачатку сакавіка польскі міністр па справах ЕС Рафал Тшаскоўскі адзначыў, што паводле польскага ўрада чарговы саміт павінен умацаваць Усходняе партнёрства, а не «зводзіцца да закляцця ці падвядзення таго, што да гэтага часу ўдалося зрабіць». Як падкрэсліў, павінна быць прадстаўлена «даволі амбіцыйная выніковая дэкларацыя»:

— На наш погляд, найбольш важным з'яўляецца тое, каб паявіліся канкрэтныя дэталі, таму што гэта адправіць выразны сігнал, што ЕС імкнецца да таго, каб у складанай геапалітычнай сітуацыі ўмацаваць усходняе суседства.

Як адзначыў, самым важным паведамленнем павінна быць падкрэсленне падтрымкі ЕС для Украіны, Грузіі і Малдовы ў правядзенні рэформаў, звязаных з ажыццяўленнем гэтымі дзяржавамі пагадненняў аб асацыяцыі. Па яго словах — падобна як і Іаганеса Гана — гэта вельмі важна, каб ЕС прымяняў індывідуальны падыход да канкрэтных краін Усходняга партнёрства, каб засяродзіцца на канкрэтных прыярытэтах. Гэтая дарога перад Беларуссю, аднак, вельмі далёкая.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Бежанства. Супольная гісторыя



■ «Жэмэрва» і «Рада»

Інаўгурацыя адзначання сотай гадавіны бежанства (будзе працягвацца да канца года і гэтая падзея ўвекавечваецца па-рознаму рознымі арганізацыямі) у Беластоку была спалучана ў кінатэатры «Форум» з юбілеем штомесячніка **«Przegląd Prawosławny»**, які паказваецца ў сталіцы Падляшша ад трыццаці гадоў. Гэта першы часопіс які выдаецца свецкім асяроддзем праваслаўных вернікаў не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім былым камуністычным блоку дзяржаў. У рамках гэтай часткі святкавання гадавіны бежанства адкрыта ўнікальная фотавыстава, сарганізаваная Фондам імя Канстанціна Астрожскага, якая мае суправаджаць Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, а потым трапіць у Бельск-Падляшскі, дзе неўзабаве адбудзецца Свята славянскай пісьмовасці, ды ў кінатэатр у Саколцы. Мае быць таксама прадстаўлена ў канцы ліпеня ў гмаху Сейма. Пра кранальны лёс бежанцаў расказалі таксама ў спектаклях на сваёй гаворцы дзеці з бельскай групы «Антракт» і гайнаўскія ліцэісты пад мастацкім наглядам акцёркі і рэжысёркі Іаанны Стэльмашук-Троц.

У апошнім выпуску штомесячніка «Przegląd Prawosławny" і ў кавярні «Фама» яго заснавальнік і галоўны рэдактар, дэпутат Сейма Яўген Чыквін нагадаў пачатак часопіса, ля вытокаў якога стаіць дзейнасць у Брацтве праваслаўнай моладзі: «Мы ніколі не былі органам Царквы, але, захоўваючы незалежнасць, хацелі служыць Царкве. Гэтая формула, хаця траплялiся нам памылкі, нашымі іерархамі і духавенствам адабралася і адабраецца надалей».

Падчас юбілею часопіса 8 мая (таксама былі прадстаўлены сёлетнія пераможцы прэміі князя Канстанціна Астрожскага, якія прысвойвае Фонд яго імя і заадно выдавец выдання **«Przegląd Prawosławny»)** вядучая журналістка, намесніца галоўнага рэдактара штомесячніка Анна Радзюкевіч адзначыла:

— «Przegląd Prawosławny" гэта ўжо свайго роду энцыклапедыя праваслаўнага жыцця не толькі ў Польшчы, але і ў свеце, таму што мы ніколі не абмяжоўвалі сябе да мясцовага праваслаўя. Мы заўсёды лічылі, што праваслаўе з'яўляецца ўніверсальным і нельга яго падзяляць межамі. Мы ўплываем адзін на аднаго, узаемна вучымся адзін у аднаго.

## Наш свет распалавінены

Спасылаючыся, у сваю чаргу, на сотую гадавіну бежанства Анна Радзюкевіч адзначыла:

— Людзі ўцякалі, таму што баяліся немца. Яны баяліся, што вораг дзяцей паўкідае ў студні, а жанчынам паабрэзвае грудзі і выкалупае вочы. Загрузілі частку сваёй маёмасці на фуры, якія выглядалі як цыганскі табар і падаліся на ўсход. Ехалі да бліжэйшых чыгуначных вузлоў — Баранавічы, Мінск, Орша, Бабруйск. Было горача. Разам з імі ўцякалі войскі імперскай арміі. Здаралася ім сапхнуць на абочыну бежанцаў нават на некалькі тыдняў. Тады выпівалі ўсю ваду з калодзежаў. Нават у лужынах яе не хапала. Не хапала ежы, корму для коней, кароў. Распаўсюджваліся хваробы. Шмат людзей стала паміраць. Калі трапілі ў цягнік і дабраліся ў глыб Расійскай імперыі, было добра. З таго часу амаль усе захавалі вельмі цёплыя ўспаміны. Расійская імперыя да Першай сусветнай вайны была выдатна развіваючайся краінай (...). Бежанцамі клапаціліся аж 1 300 камітэтаў дапамогі. Знаходзілі працу, дзеці ішлі ў школу, мелі дах над галавой, кожная сям'я штомесяц атрымлівала 30 рублёў. Пасля двух гадоў выбухае Кастрычніцкая рэвалюцыя і тады нашы бежанцы даведаліся, што яны непатрэбныя, што ядуць чужы хлеб і павінны вяртацца. Яны вярталіся тым жа шляхам і след сваёй вандроўкі мецілі пахаванымі целамі (...). Мы — дзеці і ўнукі бежанцаў. Мы павінны шанаваць іх гераічны подзвіг, каб падняць з руін усё жыццё, і матэрыяльнае, і духоўнае. Бежанства распалавініла наш свет, на мінулы і заспеты. Яно існуе толькі ў вуснай перадачы, не ўвайшоў гэты перыяд у падручнікі. Гэта наш боль, і мы хацелі б, каб гэтая памылка была выпраўлена.

Аўтарам выставы «Бежанства 1915. Супольная гісторыя», якая працуе ў фае кінатэатра, удалося здабыць здымкі бежанцаў у розных сітуацыях — на вазах, якія нагадваюць цыганскі табар, качуючых на ўзбочынах, стаяўшых у чарзе па харчаванне, у ваенных шпіталях, дзяцей-сірот, здымкі гарадоў, праз якія яны праязджалі. Большасць фотаздымкаў чорна-белая. Паказаны таксама каляровыя здымкі — арыгінальныя з 1909-1915 гадоў, прадстаўляючыя Расійскую імперыю і месцы, да якіх яны дайшлі. Здымкі зроблены тады, калі заходні свет толькі вучыўся каляровай фатаграфіі. Іх аўтар распрацаваў новую арыгінальную сістэму каляровай фатаграфіі, заснаваную на выкарыстанні трох асобных фільтраў — чырвонага, жоўтага і сіняга. Здымкі з 1909-1923 гадоў былі атрыманы з архіваў, сярод іншых Гістарычнага музея ў Мінску, краязнаўчых музеяў у Баранавічах і Слоніме, ад Ігара Сурмачэўскага, з выдавецтва экзархата Беларускай царквы. На адкрываючай выставу дошцы аўтары выставы прыгадалі: «Падпарадкавалася (закліку да эвакуацыі ў 1915 г. — М. Х.) Праваслаўная царква і яе вернікі. Іншыя цэрквы, асабліва Рымска-каталіцкі касцёл, пераконвалі сваіх вернікаў застацца ў краіне. Тым не менш, паток бежанцаў з-пад Ловіча ці Ломжы быў шматлікі — гаварылі аб амаль паўмільённай грамадзе палякаў-католікаў. Сапраўдная хваля, аднак, рынула з Холмшчыны, Беласточчыны, Гродзеншчыны, дзе праваслаўныя кампактна пражывалі ў цэлых вёсках. Лічыцца ў цяперашні час, што ў дарогу адправілася ў агульнай складанасці больш за тры мільёны чалавек».



■ Анна Радзюкевіч і Яўген Чыквін

## У драматызме ёсць аптымізм

З нагоды выставы была апублікавана двухмоўная (на польскай і беларускай мовах) брашура аб бежанстве аўтарства Дарафея Фіёніка з Музея малой айчыны ў Студзіводах, якая таксама ўключае архіўныя фатаграфіі. Яе аўтар якраз перад урачыстасцямі сказаў «Ніве»:

— Брашура з'яўляецца эцюдам да кніжкі, якую рыхтую на гэтую тэму і якая выйдзе ў канцы года. Цяжка напісаць невялікі тэкст аб бежанстве і ўключыць яго ў такую брашуру. Трэба ў ёй зрабіць сінтэз гэтага вялікага перыяду нашай беларускай, падляшскай гісторыі, дарэчы, не толькі падляшскай. Хоць падзея ахоплівала 5-8 гадоў, то ў той час столькі ўсяго адбылося ў жыцці нашых продкаў, колькі не прайшлі іхнія продкі ў мінулым стагоддзі або двух стагоддзях. Пытанне застаецца, як сёння гаварыць аб бежанстве падрастаючаму пакаленню, пасля гэтых трох ці чатырох пакаленняў, якія не памятаюць, не ведаюць. У гэтым драматызме, які суправаджаў бежанства, ёсць таксама аптымізм: мы, беларусы, ёсць тут, нашы продкі вярнуліся сюды, там часта пакідаючы бацькоў, бабуль і дзядуляў, братоў і сясцёр, часам вяртаючыся як адзінокі калок. Гэтая дарога праз выпрабаванні незалежна ад усяго многіх з іх прывяла назад.

У рамках адзначэння гадавіны падзей пачатых у 1915 г. паказаны былі на сваёй гаворцы два спектаклі: «Бежанцы» ў выкананні Магдаліны Гаўрылюк, Марыі Краўчык, Якуба Мацеюка і Міхала Скарбіловіча з белліцэяў у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, працуючых пад мастацкім кіраўніцтвам акцёркі Іаанны Стэльмашук-Троц і «Дзеці бежанства», у выкананні дзяцей сабраных у групе «Антракт», ведзенай Альжбетай Фіёнік у Бельскім доме культуры, якая сказала «Ніве» перад паказам:

— Вядома, што дзеці таксама ўдзельнічалі ў бежанстве і мы шукалі такіх успамінаў з тых часоў, дзе гаворыцца аб іх лёсе, у першую чаргу ў «Бельскім гасцінцы», дзе былі сабраны ўспаміны з ваколіц Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Дзеці, калі яны з'язджалі ў рамках бежанства, усё ўспрымалі зусім па-іншаму, чым дарослыя, у першую чаргу разглядалі гэта як экскурсію. Гэта была для іх паездка ў далёкае, цікавае месца. Вядома, што людзі з'язджалі таксама са сваімі песнямі, карагодамі, гульнямі, абрадамі, што і выкарыстоўваем у нашым спектаклі. З гэтых дзіцячых успамінаў вынікае, што яны жылі добра зараз пасля выезду, іх добра прымалі, а ўсё раптам змянілася, калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя. Тады ва ўспамінах дзяцей паяўляецца жах, страх, нэндза, холад, хваробы і нават смерць блізкіх. І тое ж самае з нагоды ўспамінаў аб цяжкім вяртанні. Мы аднак канчаем спектакль пазітыўна, на аптымістычнай ноце. Таму што шмат вяртанняў у той час на нашых бельскіх вёсках адбывалася падчас Вялікадня, спяваем у канцы прадстаўлення песні звязаныя з гэтым святам, валачобнічаем і з нагоды свята Юр'я ідзем на поле, як быццам вяртаемся на сваю зямлю. Я думаю, што ў час працы над гэтым спектаклем шмат дзяцей, на свой спосаб, зразумела, чым было бежанства. І гэта галоўнае.

У сваю чаргу Іаанна Стэльмашук-Троц, распавядаючы нам пра спектакль, прэм'ера якога адбылася ў снежні мінулага года ў Беларускім музеі і асяродку культуры ў Гайнаўцы, прынятым цяпер у Беластоку гледачамі воплескамі стоячы і са слязамі на вачах, прызналася:

— Я сама як акцёрка хацела зрабіць спектакль аб бежанстве, але не знайшла для сябе задумы. Калі я думаю пра бежанства, найбольш мяне кранае тое, аб чым мы кажам таксама ў спектаклі, а што абагуліў Сакрат Яновіч, што пасля гэтай падзеі беларусы ўпалі і ўжо не падняліся з каленяў. Нашы беларускія прадзеды тады вярнуліся ў Польшчу, становячыся непісьменнымі, жабракамі... Гэтая падзея была тактычнай памылкай у палітыцы выпаленай зямлі, і аказалася жахлівай у наступствах. Калі б не гэтае здарэнне, мы, беларусы, былі б цалкам маральна і культурна кімсьці іншымі. Тое змаганне тады за самыя простыя рэчы, з голадам і страхам перад смерцю, перад сваім паходжаннем адціснула велізарнае кляймо на беларусах.

Як мы ўжо згадвалі ў «Ніве», сцэнарый спектакля ўзнік на аснове кнігі Бажэны Дзем'янюк «Бежанцы» ў перакладзе на мясцовы дыялект Яна Максімюка са ўступам да яе айца Грыгорыя Місіюка ды з выкарыстаннем цікавых запісаў на вэб-сайце **www.bieżeńcy.pl**.

## Рэкрутчына гэта быў шок

Рэкруцкія песні падчас гадавіны заспявала мінская група «Рада» (трох мужчын і жанчына — Святлана Буцкая, мастацкі кіраўнік групы). Мужчыны, прадстаўлены на сцэне ў форме стогадовай даўнасці. Яны суправаджаліся на сцэне песнямі студзіводскай групы «Жэмэрва». Адзін са спевакоў «Рады» Аляксандр Жукоўскі казаў нам:

— Наш калектыў з 2006 года, то-бок, з моманту свайго стварэння, у першую чаргу, даследуе мужчынскую спеўную традыцыю, якая існавала на тэрыторыі Беларусі. Калі наша тэрыторыя была далучаная да Расійскай імперыі, рэкрутчына гэта быў нейкі культурны шок. Да таго часу ў войску служыла толькі шляхта. Для беларускіх простых хлопцаў гэта быў шок, калі пачалі іх забіраць у войска, напрыклад, на 25 гадоў. Шок адлюстроўваецца ў нашым народным фальклоры, у значнай частцы рэкруцкіх песень. Іншыя рэкруцкія песні звязаны з вяртаннем і прывозам у песнях часткі ўсходняй культуры. Гэта свайго роду іх адаптацыя да беларускай культуры.

Падчас адзначэння сотай гадавіны бежанства ў кінатэатры «Фама» быў таксама даступны дыск Юрыя Каліны з фільмавым рэпартажам «Бежанцы» з 1999 года, які быў створаны на патрэбы Польскага тэлебачання. На дыску таксама апынуліся фатаграфіі з выставы. Дыск будзе накіраваны ў школы ў якасці вучэбнага матэрыялу. Сам фільм змяшчае кранальныя ўспаміны бежанцаў, якія чаргуюцца з архіўнымі матэрыяламі, між іншым з Польскага тэлебачання, і якімі падзялілася Беларускае гістарычнае таварыства.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Крапіва са смакам!

### *Суп з маладой крапівы*

*2 вялікія жмені лісця маладой крапівы, 1 цыбуля, адна лыжка мукі, 1 лыжка масла, 1,5 літра адвару з мяса або булённага кубіка, 2-3 бульбіны, соль, перац, 1 жаўток, 2 лыжкі смятаны, 1 лыжка лімоннага соку.*

Дробна пасечаную цыбулю падсмажыць на масле да залатога колеру, засыпаць мукой і зрабіць светлую засмажку. Дадаць выпаласканае, дробна пасечанае лісце крапівы і сцёртую моркву, перамяшаць і заліць адварам. Дадаць ачышчаныя, пакроеныя ў костку бульбіны і зварыць да мяккасці. Суп прыправіць соллю і перцам, «ушляхетніць» жаўтком змяшаным са смятанай і заквасіць лімонным сокам. У іншым варыянце бульбу зварыць асобна і дадаць у суп на канец.

### *Крапіўны суп з салам*

*Місачка маладой крапівы, 1 лыжка алею, 2 лыжкі мукі, 50 грамаў сала, 1,5 літра мяснога адвару, соль, перац, шклянка кіслай смятаны, 50 грамаў жоўтага сыру.*

На алеі падсмажыць дробна пакроенае сала. Калі зжоўкне, пасыпаць яго мукой і ўсё, мяшаючы, зрумяніць. Засмажку заліць адварам, добра перамяшаць і варыць. Дадаць памытую, дробна пасечаную крапіву і варыць яшчэ 10 хвілін. У суп уліць смятану, прыправіць і падаваць пасыпаную цёртым сырам.

**Ясюк СТРУК**

## Беласток у кветках

Аб вясне прыпамінаюць нам кветкі. У Беластоку вясеннія кветкі пасадзілі (да 20 красавіка) на скверыках, між іншым, пры вуліцах Сянкевіча і Мальмеда (у тым ліку на скверы Марыі і Леха Качынскіх), у парку Плянты (перш-наперш на алеі Закаханых і побач пляцоўкі для дзіцячых гульняў), на двух скрыжаваннях вуліц з кругавой развязкай на Дайлідах і на такім жа скрыжаванні Люсы. Тут красуюць шафраны, жоўтыя, ружовыя і аранжава-чырвоныя цюльпаны ды жоўтыя, белыя, бардо і сінія браткі.

Самыя розныя кветкі зацвілі ў агародзе каля палаца Браніцкіх. Растуць тут цюльпаны трох колераў, шафраны, нарцысы, орлікі, касачы, стакроткі, першацвет, незабудкі і гіяцынты. Яны ўсе разам як самы прыгожы шматколерны дыван у розныя цікавыя ўзоры.

Кветкі пасадзілі таксама ў прыгожых вазонах-кветніцах, якія стаяць паўз вуліц Суражскай, Бялуўны, Ліпавай і Браніцкага ды на Універсітэцкім пляцы. Апрача таго цвітуць ружовыя і белыя петуніі ў вазонах павешаных на ліхтарах вулічнага электраасвятлення на вуліцах Рынак Касцюшкі, Кілінскага, Пенкнай і іншых.

Летнія кветкі будуць садзіць у першай палове чэрвеня. Летам у горадзе зацвіце яшчэ больш разнаколерных кветак. **(яц)**

# Нашы гаспадараць па-рознаму



Малодшыя земляробы купляюць сельгастэхніку з выкарыстаннем еўрасаюзных датацый (выстава сельгастэхнікі ў Гайнаўцы)



Некаторыя гаспадары зрабілі стаўку на конегадоўлю

У Гайнаўскім павеце ёсць месцы, дзе на якасных землях вельмі добры плён дае пшаніца і ўдала вырошчваліся цукровыя буракі. Некаторыя гаспадары, якіх можна таксама назваць прадпрымальнікамі, абсяваюць сотні гектараў палёў і ўдала вальняюцца добрым прыбыткам. На Гайнаўшчыне ёсць таксама гаспадары, якія гадуюць дзясяткі, а некаторыя і звыш сотні кароў, дзясяткі маладняку, а некаторыя займаюцца буйной гадоўляй свіней. Маштабная гадоўля давала добры прыбытак, які зараз стаў меншым з-за паніжэння цэн на малако і мяса, але надалей ён здавальняючы. Інакш справа маецца з прыбыткам у гаспадароў, якія абсяваюць па 10-20 гектараў палёў і гадуюць па 5-10 кароў, а ёсць жа многа гаспадароў, якія могуць толькі памарыць нават пра гаспадаранне ў такім маштабе. Нягледзячы на еўрасаюзныя даплаты да кожнага апрацоўванага гектара зямлі, а ў гэтым годзе, пры стрыманні пэўных умоў маюць даплачваць нават да гадоўлі кароў і цялят, прыбытак у невялікіх і сярэдняй велічыні гаспадарках адносна невялікі і апошнім часам яшчэ паменшаў. Нашыя ўлады пашырылі таксама маштаб даплат да планавага аблясення палёў і гэты курс здабывае штораз большую прыхільнасць гаспадароў Гайнаўшчыны, у якіх палі горшай якасці (зямлю лепшай якасці аблясяць забараняецца). У некаторых месцах Гайнаўскага павета новыя пасадкі і аблагі, якія сталі аблясяцца ў натуральны спосаб, пачалі нават набліжацца да вясковай забудовы.

— Калі мы гадуем па некалькі кароў, нам за літр малака плацяць па 60-70 грошаў, залежна ад яго якасці. Лепшыя цана і прыбытак ад гадоўлі ў гаспадароў, якія пастаўляюць намнога больш малака. Цана свініны на скупцы апошнім часам значна ўпала і зараз мала асоб цікавіцца, каб прыватна купіць вепрука і зрабіць традыцыйныя мясныя вырабы. Раней індывідуальныя пакупнікі плацілі больш, чым давалі на скупцы і гэта было нам выгадным, — сказала гаспадыня, якая разам з сямейнікамі на зямлі горшай якасці гадуе па некалькі кароў і свіней.

Многа сялян абрабляе свае палі пры выкарыстанні ўстарэлых трактароў і сельскагаспадарчых машын, купленых яшчэ пры народнай уладзе. Аднак малодшыя гаспадары, якія рашыліся разгарнуць вытворчасць сваіх гаспадарак, купляюць дарагія трактары і сельскагаспадарчую тэхніку з выкарыстаннем еўрасаюзных даплат.

На Гайнаўшчыне мала гаспадароў гадуе свіней, бо прыбытковасць такой сельгаспрадукцыі невялікая. Дастойны прыбытак дае толькі буйная гадоўля — маштабу соцень і тысяч штук свіней на працягу года, але тады трэба тлумачыцца перад жыхарамі навакolля з-за вялікага смуроду ад свінафермы. Некаторыя гаспадары зрабілі стаўку на конегадоўлю, хаця свае палі абрабляюць трактарамі. Прыбытак ад продажу коней — нядрэнны, калі гадаваць большую колькасць коней. Адзін гаспадар на Гайнаўшчыне гадуе звыш 100 кароў і маладняк у дзясятках штук. Іншы абрабляе каля 500 гектараў зямлі, на якой галоўным чынам вырошчвае збожжа. Карысталіся яны вялікімі еўрасаюзнымі даплатамі і льготнымі пазыкамі, прызначанымі на мадэрнізаванне гаспадарак і атрымліваюць пастаянныя еўрасаюзныя даплаты да апрацоўваных палёў. Вялікую частку атрымліванага велізарнага прыбытку яны ўкладваюць у мадэрнізацыю гаспадарак і развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі. Гаспадараць яны на якасных землях і ўдалося ім разгарнуць маштабную вытворчасць.

— Я думаў зрабіць стаўку на гадоўлю кароў, але знеахвоцілі мяне жорсткія еўрасаюзныя стандарты жывёлагадоўлі, якія ўводзіліся пасля далучэння Польшчы да Еўрасаюза. Тады заняўся вырошчваннем збожжа, стаў купляць і арандаваць зямлю, — сказаў уласнік буйной гаспадаркі. Ён працуе ў галоўным з вясны да восені і зімой можа выехаць на адпачынак.

Згаданы гадоўца кароў вымушаны працаваць без водпуску, бо пастаянна трэба даглядаць статак, у якім больш за 100 кароў. Згаданы раслінавод перш за ўсё абрабляе грунты добрай якасці. Калі ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя бяздзетны гаспадар хацеў з жонкай перайсці на пенсію і прапанаваў перапісаць дармова на раслінавода некалькі гектараў зямлі, той, паглядзеўшы на поле дрэннай якасці, адмовіўся браць яе нават дарма. Не бачыў эканамічнага прыбытку ад такой зямлі. Тады была яна дармова перапісана на іншага гаспадара, які стаў яе абрабляць, нягледзячы на дрэнную яе якасць. Зараз сельскагаспадарчая зямля ў цане і ніхто ўжо не зракаецца яе дармова. Цяпер купляюць зямлю дрэннай якасці і апрацоўваюць яе або аблясяць дзеля атрымання еўрасаюзных даплат. На Гайнаўшчыне палі горшай якасці найбольш аблясяюцца ў гмінах Дубічы-Царкоўныя, Чаромха, Кляшчэлі, Нараўка і Нарва.

Інакш справа маецца на добрых землях Гайнаўшчыны, дзе пайшла мода на таполі, якімі гаспадары абсаджвалі панадворкі, або садзілі на загародзях. Пасля таполевымі дошкамі абівалі гаспадарчыя будынкі, выконвалі з іх платы і лаўкі, тапаліну сталі выкарыстоўваць масава на дровы. Аднак за сорак гадоў таполя можа вырасці да небывалых памераў і пагражаць будынкам. Да ссячэння высачэзных таполяў гаспадарам прыходзіцца цяпер наймаць пад'ёмныя краны.

— У нас ёсць лес рознага ўзросту і рознай велічыні. За дагляд некалькігадовай пасадкі атрымліваем еўрасаюзную даплату. Хутка трэба будзе прарэджваць лес, якому каля 20 гадоў. Дровы возім з яшчэ старэйшага лесу. У нас людзі за дрывамі не ездзяць у Белавежскую пушчу, толькі бяруць са свайго лесу. Садзілі мы яго на землях найгоршай якасці, дзе збожжа давала вельмі дрэнны плён. Апошнім часам людзі штораз больш пачалі аблясяць палі з-за магчымасці атрымаць даплату. Але дазвол на аблясенне палёў лепшай якасці атрымаць нельга, — сказалі мне ў адной вёсцы, размешчанай на землях горшай якасці. — Частка зямлі ў гэтым сяле ляжыць аблогам і зарастае самасеем. У асноўным цана зямлі добрай якасці на Гайнаўшчыне расце. Зараз за гектар добрай якасці ворыва трэба заплаціць больш за 20 тысяч злотых. Затое цана зямлі дрэннай якасці намнога меншая, але пэўна будзе расці і таму не рэкамендуецца цяпер прадаваць бацькаўскую зямлю, нават калі яна ляжыць аблогам.

Зараз штораз больш маладых жыхароў вёсак Гайнаўшчыны працуе прафесійна толькі па-за сельскай гаспадаркай або дадаткова, з дапамогай сямейнікаў, абрабляе яшчэ бацькаву гаспадарку. Цяпер маладыя часцей, чым было гэта раней, рашаюцца жыць на вёсцы, дзе жыллё намнога таннейшае, чым у гарадах, і на аўтамабілях даязджаць на працу ў горад. Аднак частка працоўных сялян атрымлівае прыбытак толькі з невялікай сельскагаспадарчай прадукцыі і еўрасаюзных даплат да зямлі. Некаторыя з іх, каб пражыць, вымушаны наймацца на працу ў буйнейшых гаспадароў за невялікія грошы. Жыхары вёсак, размешчаных у Белавежскай пушчы і яе наваколлі, на зломе XX і XXI стагоддзяў рабілі стаўку яшчэ на агратурызм. Уласнікі зямлі атрымалі магчымасць у абмежаванай формуле займацца турыстычнымі паслугамі на сваіх панадворках. Зарэгістраваўшы агратурыстычную дзейнасць, могуць яны на беспадаткавай аснове прапанаваць турыстам начлегі і харчаванне ўласнай вытворчасці. Найбольш агракватэр паўстала ў Белавежскай, Нараўчанскай, Гайнаўскай і Дубіцкай гмінах, але толькі ўласнікі некаторых белавежскіх агракватэр могуць пахваліцца прыбыткам, які дазваляе ім пражыць без дадатковых крыніц даходаў. Едучы наведаць пушчу, айчынныя і замежныя турысты найчасцей затрымліваюцца ў Белавежы і менавіта ўласнікі белавежскіх агракватэр могуць разлічваць на кліентаў. Белавежа страціла ўжо свой ранейшы сельскагаспадарчы характар і ў выдатнай большасці ўласнікаў сельскагаспадарчай зямлі няма там ужо ні коней, ні трактароў, якімі маглі б абрабляць палі. Частка сенажацей выкарыстоўваецца для загатоўкі сена для лясной жывёлы, а іншыя ляжаць аблогам. Аднак з-за турыстычнай дзейнасці цана зямлі горшай якасці ў Белавежскай гміне намнога большая, чым у суседніх гмінах. Аднак многія выхадцы з нашых вёсак не рашаюцца прадаваць сваю бацькаўшчыну, бо ацэньваюць яе не толькі па матэрыяльнай вартасці, якая яшчэ невялікая.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Фота: Павал Тадэйка



# Ева Першая - жанчына на пасадзе бургамістра Саколкі

**Не толькі планы, але канкрэтныя доказы змен можна пералічыць за некалькі месяцаў з таго часу, калі Ева Кулікоўская пераняла ўладу ў Саколцы. Яе галоўныя мэты — гэта трансгранічнае супрацоўніцтва з Усходам, перш за ўсё з суседняй Беларуссю.**

Уршуля Шубзда: — Вы гасцілі ў Саколцы групу гродзенскіх журналістаў. Пра сустрэчы з Вамі пісаў беларускі сайт „Твой стыль”, які чытае моладзь.

**Ева Кулікоўская:** — Адкрываемся на Усход. Хачу супрацоўнічаць не толькі з Беларуссю, але і іншымі ўсходнімі краінамі. На маю думку, з суседзямі трэба жыць дружна. У Брусэлі ці дзесьці далей могуць між сабою сварыцца, але не тут. Хачу лакальную палітыку накіраваць на іншыя рэйкі. Гэта будзе палітыка суседства, вынікам якой мае быць бізнес для абедзвюх краін, ці хаця б абодвух рэгіёнаў — Сакольшчыны і Гарадзеншчыны.

— Нядаўна завяршыўся першы этап перабудовы перагрузачнага тэрмінала ў Саколцы. Гэта дазваляе на перасыланне кантэйнерных перавозак для прадпрыемстваў, якія гандлююць з краінамі былога Савецкага Саюза і Азіяй. Інвестыцыйныя работы пачаліся ў сакавіку мінулага года, у красавіку гэтага года кампанія падала заяўку на атрыманне ліцэнзіі на выкарыстанне шырокіх рэек.

— Шырокі пуць гэта магчымасць для нашых прадпрымальнікаў, і не толькі нашых, спрыяльная ўмова для інвестыцый на Сакольшчыне, развіцця нашага рэгіёна, у першую чаргу развіцця прадпрыемстваў. Гэта звязанае з эканамічнай субзонай. Хачу сцягнуць яшчэ больш прадпрымальнікаў і, вядома, даць магчымасць развіцця, вызваляючы ад падаткаў.

— Хочаце, каб горад развіваўся не толькі ў галіне эканоміі, але таксама турызму, аб чым сведчыць нядаўняе адкрыццё Турыстычнага інфармацыйнага цэнтра ў Саколцы.

— Маем чым ганарыцца: кухня, краявіды. Перш за ўсё еўхарыстычны цуд, які меў месца ў касцёле св. Антонія некалькі гадоў таму, аб чым нельга забываць. Наадварот, трэба развіваць рэлігійны турызм. Хачу, каб турысты, едучы праз наш горад папулярным татарскім шляхам у Крушыняны, ведалі, што Саколка таксама мае цікавую культуру, гісторыю і архітэктуру. На адкрыццё Турыстычнага інфармацыйнага цэнтра мне ўдалося здабыць грошы на рэкламны веласіпедны рэйд па Сакольшчыне. Гміна, супольна з Падляшскай турыстычнай арганізацыяй, хоча звярнуць увагу на каштоўнасці нашага рэгіёна. Спадзяюся, што кожны турыст, пабыўшы хаця адзін раз у нашым старонні, захоча сюды вярнуцца.

— У гэтым годзе гміна плануе ўключыцца ў святкаванні гадавіны Бітвы на Нёмане 1920 г.

— Так, гэтае пытанне разглядалася на пасяджэнні гарадской рады. Гміна Саколка супольна з Сэйнамі хоча адзначыць важную для нас усіх гадавіну перамогі над бальшавікамі. Падрабязны план гадавіны аб'явім неўзабаве.

— Падводзячы гутарку можна дайсці да вываду, тэрмін знаходжання Евы Кулікоўскай на пасадзе бургамістра Саколкі будзе моцна накіраваны на Усход.

— Дакладна. Хачу ў чарговай фінансавай перспектыве Еўрасаюза, якая паволі ажыццяўляецца, рэалізаваць трансгранічныя праекты. На гэтым скарысталі б гарады па абодвух баках мяжы. З кім маем супрацоўнічаць, калі не з суседзямі? Малы памежны рух, турызм, эканамічная субзона... Можа гэта надта амбітныя планы, але думаю, што ўдасца іх ажыццявіць. Гэта не пустыя палітычныя абяцанні. Я нічога перад выбарчай кампаніяй людзям не абяцала. Проста гавару тое, што можна і трэба зрабіць.

Дзякую за размову.

Уршуля ШУБЗДА



**Ева Кулікоўская** нарадзілася ў Саколцы. Выпускніца юрыдычнага факультэта Універсітэта ў Беластоку. З 2004 года працавала ў Падляшскай маршалкоўскай управе. На апошніх самаўрадавых выбарах балатавалася на пасаду бургамістра Саколкі як кандыдат Польскай сялянскай партыі.

# Выбарчы цырк або грыль



У перадвыбарчы панядзелак уключыў я першы канал польскага тэлебачання, каб, як кожны грамадзянін Польшчы, даведацца на каго галасаваць у надыходзячых прэзідэнцкіх выбарах. Праграму з кандыдатамі да прэзідэнцкага крэсла вядзе вядомы журналіст, вядучы інфармацыйнай праграмы «Wiadomości». І што я бачу: дзесяць чалавек, нібыта ўдзельнікі тэлевіктарыны «Jeden z dziesięciu», адказваюць на пытанні вядучага. Тое самае заўважыў самы смешны кандыдат Гжэгаж Браўн, у прыватнасці братанак дырэктара Польскага тэлебачання. Чаму самы смешны? Бо сваім псеўдаксяндзоўскім голасам заявіў, што з нагоды 1050 гадавіны Хрышчэння Польшчы, якая выпадае ў наступным годзе, прапануе вярнуцца да часоў сярэднявякоўя. Ён, як будучы манарх Польшчы, абвяшчае тры самыя важныя пастулаты ягонай улады: школа, касцёл, стрэльбішча. Кажа: баіцеся, значыць вы — будучыя мае нявольнікі. Не ведаю чаго і каго баяцца, а мо хутчэй, з чаго мне тут смяяцца. Можа з таго, што дзядзька братанку даў час зрабіць з сабе блазна ў дзяржаўным тэлебачанні. Другі клоўн — мой любімы непераможны Януш Корвін-Міке, які ўжо 25 гадоў няўдала змагаецца за пасаду прэзідэнта Польшчы. Ён яшчэ лепшы цырк нам прапануе — ліквідаваць установу сацыяльнага страхавання (ZUS), адмяніць усе падаткі і сацыяльныя дапамогі для беспрацоўных, а нібыта тады Польшча стане багатай і ганарлівай краінай. Ну што ж, рускія маюць Жырыноўскага, украінцы Ляшко, а мы свайго Корвіна. Іншы кандыдат, Мар'ян Кавальскі, выйшаў проста з падвала, як нейкі жулік-псеўдабалельшчык з мускулатурай, і кажа: выбірайце мяне, бо я ідэальны прэзідэнт на цяжкія часы крызісу. Відаць, кожны мае свае пяць хвілін, каб паказацца: адзін прапануе гумар, другі — мары аб сярэдневяковай манархіі, а яшчэ іншы паказвае сваю мускулатуру. Іншы артыст гэта сапраўдны рок-музыкант Павал Кукіз, былы лідар польскай панк-групы «Kukiz i Piersi». Што сталася, што так слаўнага аўтара тэкстаў, кампазітара ды таленавітага музыканта пацягнула на пост прэзідэнта? Напэўна слава, якой яму апошнім часам бракуе. Кукіза на інтэрнэт-форумах фанаты часта вінавацілі за тое, што даўно абяцаў выдаць альбом з Янам Барысэвічам — гітарыстам групы «Lady Pank», а выбраў гонку да палітычнага карыта. Дарэчы, альбом Барысэвіч-Кукіз з 2003 года быў цудоўны. Аднак я не бачу Кукіза ў якасці прэзідэнта Польшчы. Ну, але Кукіз ездзіць па Польшчы сваім старэнькім 30-гадовым «Фольксвагенам», фанаты яму паляць вогнішчы, смажаць каўбаскі, гавораць да яго на ты. Ды яшчэ бракуе, каб Кукіз іграў на гітары свае шэдэўры з 90-х гадоў тыпу «O Hela», «Całuj mnie», «ZCHN się zbliża», «Leżę leżę», «Jadą pany na Warszawę», «Rezerwa», а натоўп яго фанатаў спявае з ім яго гіты. Але не, музыка пачакае, а карытца хтосьці іншы можа забраць. Ну і Януш Палікот, бізнесмен, прадпрымальнік, дырэктар спіртзавода з Любліна, таксама хоча да карытца. Ён ужо мае за сабой сваю партыю, складзеную з каляровых клоўнаў ды паяцаў: гомасексуалістаў, трансвеститаў, лесбіянак, крыміналістаў ды іншых цудакоў, якім 5 гадоў таму даў шанс і якія раздавілі яму партыю ды разышліся кожны ў свой бок, астаўляючы капітана свайго карабля самому тапіцца ў палітычным балоце. Бачу і прыгожую, маладую жанчыну, нічым маркізу, сярод гэтага камічнага цырку, супермадэль ці акцёрку. Не, гэта Магдалена Агурэк, нічым свойскі агурок у гэтым экзатычным шоў-салаце. Магдалена хоча званіць прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну. «Будзе наступнай каханкай Пуціна», — смяецца мой бацька. І бачу іншых, менш цікавых кандыдатаў, якія не маюць ніякага вобразу, харызмы ды таленту, каб схіліць да сябе натоўпы выбаршчыкаў. Гляджу гэты цырк і, здаецца, я не п'яны, а нібыта я пад уплывам нейкага кайфу. Думаю ці гэта новая тэлемістыфікацыя, відэамантаж ці нейкія хохмы робіць мне польскае тэлебачанне. На канец раздаўся тэлефонны званок. Гляджу, звоніць сябра з часоў белліцэя:

— Што робіце з жонкай у суботу вечарам?

— Нічога, — кажу. — Трэба раней пайсці спаць, бо раніцай у царкву, а пасля на выбары...

— Выбары не заяц, не ўцякуць. І так бабулькі па дарозе з касцёла выберуць за цябе прэзідэнта Польшчы. Прыязджайце з жонкай да мяне на грыль.

Ну што ж, таму я выбраў грыль у сябра, чымсьці гэты экзатычны цырк, якому ніколі не будзе канца.

Юрка БУЙНЮК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі

# Вясновая сустрэча ў «Ніве»



Дзень перад Юр'ем, 5 мая г.г. наведалі нас сябры з ПШ № 19 у Беластоку. Святы Юры — апякун земляробаў і хатняй жывёлы. Якраз у гэты дзень людзі першы раз выганялі на пашу авечак, кароў і коней асвечаной вярбой і спявалі песні святому Юр'ю. Такі рытуал меў ахоўваць жывёлу ад ваўкоў, хвароб, няшчасцяў.

Нашыя госцейкі: Юліта, Амэлька, Ігар і пані Ірэна Дударык распавялі як святкавалі Вялікдзень. Усе яны ўдзельнічалі ў царкве на Усяночнай. Юліта разам з сямейкай пабывала ў скіце архімандрыта Гаўрыіла ва ўрочышчы Кудак. Начная багаслужба закончылася на світанку. Навакольны свет — лес, балоты і спеў птушак — здаваліся цудоўнай казкай. Дарога ў царкву ідзе па драўлянай кладцы даўжынёй 800 метраў. Юліта баялася, каб не пакаўзнуцца і ўпасці з кладкі ў балотца. Добра, што побач была сям'я, усе яны ішлі пад ручку, падтрымліваючы адны адных: старэйшыя — маладых, а маладыя — старэйшых.

Ігар, у сваю чаргу, свята сустрэў у парафіі продкаў, у Заблудаве. Ён не толькі выстаяў усю багаслужбу. Хлапчук пераапрануўся ў светлы сціхар і служыў прыслужнікам.

Нам цікава было паслухаць, як у сучасны момант выглядаюць дзіцячыя велікодныя гульні. Ігар распавёў пра змадыфікаваную забаву «ў біткі». Дзеля гульні патрэбныя фарбаваныя яйкі і некалькі асоб. Кожны ўдзельнік дабірае сабе партнёра, бярэ сваё яйка і цаляе вяршком яйка ў яйка партнёра. Той, у каго яйка слабейшае і паб'ецца, «плаціць» сапернiку цукеркамі. Раней «плацілі» яйкамі.

Нашы госцейкі не толькі наведалі рэдакцыю. Яны яшчэ ставілі добрыя пытанні.

— А колькі кіламетраў трэба пераехаць, каб напісаць артыкул? — спытаў Ігар.

Тут было што распавядаць — якраз рэдактар «Зоркі» вярнулася з далёкага падарожжа па Палессі, дзе таксама наведала мясцовыя школы. Там якраз зацвілі жоўтыя дзьмухаўцы. На перапынку старэйшыя цёткі вучылі дзяўчынак сплятаць вяночкі. Гэтая карціна здалася родам з нашага панадворка. Падобныя вянкі выплятаюць у нас таксама пад свята Юр'я, каб аздабляць імі каровак, якія першы раз ідуць на пашу.

ЗОРКА
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Крыстыян СТОЦКІ*
*Гімназія ў Міхалове*

## *Мары*

*Каб штосьці магло здарыцца,*
*Штосьці добрае,*
*штосьці цалкам незвычайнае,*
*Трэба марыць!*
*Мары гэта.....*
*Цудоўныя хвіліны*
*нашага жыцця.*
*Без іх наш свет*
*Гэта шэрая рэальнасць,*
*Без колераў, без шчасця.*
*Кожны чалавек мае свае мары*
*Меншыя, большыя*
*Яны акрыляюць нас.*
*ВАРТА МАРЫЦЬ!*

## Загадкі з роднай хаткі

**Па лесе блукае.**
**Спажывы шукае.**
**Жыве ў яры,**
**нары**
**не рые,**
**Самотна**
**вые.**
**(В...)**

**Стаіць у лесе,**
**у цяньку**
**Аздоба майскаму**
**дзяньку.**
**Зялёны,**
**белыя вісолькі,**
**Цвіце для мушкі,**
**для зязюлькі,**
**Цвіце для Любы**
**і для Віці.**
**Любуйцеся –**
**але не рвіце.**
**(Л.....)**

**Н. А. Сторажава**

## УВАГА КОНКУРС! № 20-15

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 24 мая 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 16-15: крот, пчала. Узнагароды, кніжку Ульфа Нільсана «Найлепшы спявак у свеце» выйграла Дыяна Хіліманюк з Нарвы, а «Падарункі» Міры Лукшы — Зузанна Мішчук з Арэшкава. Віншуем!**

## У Ляўкове дзеці і моладзь ляпілі маскі

25 красавіка гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) арганізавалі IX Адкрыты скульптурны конкурс на найцікавейшую маску. У ім удзельнічала 65 асоб (дзеці, моладзь і дарослыя) з Ляўкова, Нараўкі, Плянты і Гайнаўкі. Падаем прозвішчы найлепшых юных пераможцаў.

Сярод дашкольнікаў першае раўнапраўнае месца занялі Юлія Сухадола, Вікторыя Сухадола і Патрыцыя Паўлоўская.

У катэгорыі вучняў з класаў I-III першае раўнапраўнае месца занялі Наталля Кулік і Габрыель Бранцэвіч.

У катэгорыі вучняў з класаў IV-VI першынство заваявалі Кацярына Раманчук і Патрыцыя Леўша.

Сярод гімназістаў першае раўнапраўнае месца занялі Марыя Яблонская і Адам Астапчук.

Пераможцаў віншуем! **(яц)**



фота Янкі Целушэцкага

## ПРА СЯБРОЎСТВА
# ЖУРАЎЛЯ І ЖАБЫ
*(азербайджанская казка)*

Адзін журавель піў ваду на балоце. Выйшла да яго жаба і кажа:

— Журавель, давай будзем сябраваць!

— Паслухай, жабка, — адказаў журавель, — я баюся, што не атрымаецца ў нас сяброўства.

— А чаму? — пытае жаба.

— А таму, што жывеш пад вадой, а я лятаю пад хмарамі, — адказаў журавель. — Ты не ў змозе лётаць, а я не ўмею жыць пад вадой.

— Тады ты будзеш прыходзіць на балота, я да цябе выйду і будзем сустракацца, — кажа жабка.

Журавель пагадзіўся. Сталі яны сябраваць. Журавель прыходзіў на балота пагутарыць з жабай. Прайшло колькі часу. Аднойчы жаба сказала жураўлю:

— Дарагі журавель, я нідзе не была, нічога не бачыла. Вазьмі мяне з сабой і пакажы свет.

— Ну як ты паляціш? — здзівіўся журавель. — У цябе ж няма крылляў?

— Нічога. Пасадзі ты мяне між сваіх крылляў, я буду моцна трымацца і паляцім.

Журавель як умеў адводзіў жабу ад яе намеру, але яна не хацела слухаць. Ляці і ўсё!

Пасадзіў журавель жабу між сваіх крылляў і ўзляцеў на неба. Жаба аднак не ўтрымалася на спіне, зляцела і бухнула ў балота. Заляцеў журавель на балота і кажа:

— Ці ж не гаварыў, жаба, што з нашага сяброўства нічога не атрымаецца. Не дарма кажуць, што сяброўства з няроўным да бяды прыводзіць.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

*Аляксандра ЛАШЧЭЎСКАЯ,*
*ПШ імя Кірылы і Мяфодзія*

### Жабка

*Раз, два, тры, чатыры, пяць –*
*жабцы хочацца плаваць.*
*Раз, два, тры –*
*плыві жабка, плыві.*
*Раз, два, тры, чатыры, пяць –*
*жабка змучылася і пайшла спаць.*

*Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ*
*Геранімова, ПШ у Міхалове*

### Мядзведзік

*Мядзведзік,*
*хадзі са мной да лесу,*
*Хадзі, няма часу!*
*Дай мне руку,*
*Давай, пойдзем і на лугі*
*Шукаць мядку табе і кветак мне!*

# Празываюць мяне Анёлам-Ахоўнікам!

У свабодны час я малюю або спяваю ў царкоўным хоры. У мяне ўражлівая, мастацкая душа. Я люблю дапамагаць іншым людзям. У школе працую валанцёркай. Я заўсёды стараюся бачыць крыўду і дапамагаць іншым. Цяжка мне, калі мае аднагодкі насміхаюцца з мяне. Аднак, калі яны ў патрэбе і бядзе, тады звяртаюцца да мяне за дапамогай. Ведаю, што кожны чалавек добры ўнутры і нельга яго пакідаць аднаго ў бядзе. Старэйшыя гаворань, што я такі „анёл-ахоўнік". Я сама так пра сябе не думаю.

Маю таксама другую пасію. Спяваю ў царкоўным хоры ў Гарадку. Зацікаўленне хорам пачалося ў трэцім класе пачатковай школы. З дваццаці асоб, якія тады былі прыняты, засталося не больш чым дзесяць, у тым ліку я. Мы сустракаемся па суботах пасля школьных заняткаў. Рэпетыцыі праходзяць у цёплай і прыемнай атмасферы. У нядзелю нашыя маладыя галасы часта даводзілі да слёз старэйшых асоб. На жаль, штораз нас менш — адны дзесьці ездзілі, іншыя мелі свае абавязкі, так што праз некалькі гадоў засталася толькі я. Вядучая хор параіла мне перайсці да старэйшых харыстаў, дзе ветліва мяне прывіталі. Так я праводжу свой вольны час. У нядзельку спяваю і ўсхваляю Бога за тое, што даў мне дар спявання.

**Эліза МАТУС**

**Ад рэдакцыі:** *Дарагая Элізка! Мы пад вялікім уражаннем твайго ліста. Хочам сказаць, што свет трымаецца на добрых учынках і любові да людзей. Кажуць, што дабро, падараванае іншым, вернецца павялічаным удвая. Аднагодкі могуць жартаваць і гаварыць прыкольныя словы, гэта ўсё з-за маладога ўзросту, калі празмерна хочацца гуляць і весяліцца, не звяртаючы ўвагі на крыўды і патрэбы іншых. А нашы продкі заўсёды гаварылі, што каб быць шчаслівым чалавекам, трэба бачыць іншых людзей, дапамагаць ім, дзяліцца дабром. Бо самалюбства і эгаізм заўсёды вядуць да катастрофы, хвароб, вайны і знішчэння свету.*

**Патрык МІСЯЮК**
Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

### Пушча

Пушча, мая пушча! На тваім улонні жывуць зубр, сава, алень... Вельмі цябе люблю. Твой спеў так прыемны, ён цешыць маё сэрца. Ты мяне вучыш і бавіш. О, пушча, мая пушча! Ты, як найвялікшая армія, бароніш мяне кожны дзень. Адкуль твая магутнасць? Ты была заўсёды і будзеш жыць вечна!

## Вершы Віктара Шведа

### Настаўніцы сумненні

Настаўніца Ваню
Урэшце палюбіла.
Ён хатняе заданне
Мае без памылак.

Бывае багата
Сумненняў, трывогі:
— Скажы, ці твой тата
Не меў дапамогі?

### Чаму адзін татка?

Сыночак поўны пачуцця
Звярнуўся да сваёй матулі:
— Скажы, ці кожнае дзіця
Павінна мець свайго татулю?

Матка сцвердзіла: — Вядома,
Маеш рацыю, мой Колька.
— Чаму ж трое дзетак дома
А ў нас адзін татка толькі?

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 20-15

Адказ на крыжаванку № 16:

Сі, фея, плакса, зуб, мі, гіт, ты, матор, карагод, рой, Лі, клад, масляк. Іл, мара, агарод, Кітай, стог, фа, рота, язык, ял, брацік.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Вераніка Жох, Мая Грыц, Агнешка Саўчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Клаўдзія Казбярук, Мальвіна Казлоўская, Юлія Грыц** з Міхалова, **Оля Мішчук, Марыя Варанчук**. Віншуем!

Dar, Usta, Miarka, Bajka, Fan, Podstawa, Słoneczko, Bursztyn, Nastrój, Ania, Bursztyn, Święto, Smak, Stawiennictwo, Zdanie, Ułan, Zakątek, Sto, Słonina, Kosz, Mak, Kraj, Maur, Ar

**Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы**


Дар'юш Шада-Бажышкоўскі

# З чаго робяць мацу

Пятнічны вечар — пачатак свята шабат. Яшчэ да заходу сонца гаспадыня павінна запаліць дзве свечкі: адну — божую светласць, другую — душу чалавека. Над запаленымі свечкамі з набожнасцю і накрытай галавой выгаворвае словы благаслаўлення. Гэта яе найважнейшы рэлігійны абавязак. Калі яго не выканае, памрэ пры родах. Мужчыны сустракаюць шабат у сінагозе, потым далучаюцца да чакаючых іх у хаце жонак і дзяцей. Пачынаецца святочная вячэра. Ніхто не павінен застацца галодным. У хату запрашаюць бедных і студэнтаў. Абавязкова трэба пакаштаваць салодкага віна, селядца, халы з соллю, фаршыраванай рыбы, дробна нарэзанай пячонкі, цымэсу. На суботні полудзень — чулент, фаршыраваныя курыныя шыйка, кішка, кугель. У суботні вечар — суда (апошняя святочная вячэра) і песні развітання з шабатам. Хасіды працягваюць суду да позняй ночы, можа якраз далучыцца да іх доўгачаканы Месія.

Да Другой сусветнай вайны шабатовым меню і звычаямі жыло таксама хрысціянскае насельніцтва штэтлаў і навакольных вёсак. Тады мелі яны нагоду зарабіць пару грошай, выконваючы заказаныя жыдамі ў час свята хатнія абавязкі. Шабэс-гоям (так называлі хрысціянскіх святочных памочнікаў) трэба было, між іншым, выцягаць з печкі чулент — запяканку з гароху і нуту (цяцёркі), якая варылася ўжо з чацвярга.

Іншыя, у тым ліку жыхары Крынак, упускалі ў свае хаты новапрыбылыя сем'і жыдоўскіх прадпрымальнікаў, пакуль тыя не зарабілі дастаткова і не прыдбалі сабе кватэры. У абодвух выпадках не абышлося без шабатовага гасцінца.

Дар'юш Шада-Бажышкоўскі сцвярджае, што цымэсам ці фаршыраванай рыбай (гэфілтэ-фіш) крынскіх хрысціян магчыма частавалі не толькі жыдоўскія, але таксама татарскія суседзі. Блізкасць мясцовых яўрэйскай, татарскай і беларускай кухняў прыпісвае ён аднолькавым агульнадаступным кампанентам.

— Калі прыязджаюць да мяне знаёмыя з Ізраіля, нашчадкі мясцовых жыдоў, зразу вязу іх у татарскі рэстаран. Паціху заказваю калдуны-варэнікі з ялавічынай ці ягняцінай, а яны думаюць, што гэта маміныя кереплехі. Кугелям для іх бывае бульбяная бабка, добра ведаюць таксама дранікі ці курыны булён. Супольных страў сапраўды шмат. Толькі жаль, што пазабывалі ў нас пра бялысы (іх назва паходзіць ад Беластока) — булачкі з цыбуляй і часнаком. У ЗША яны надалей застаюцца вельмі папулярнымі. Няма і кнышоў (ад гарадка Кнышын) — піражнага, спечанага з цеста падобнага на мацу, фаршыраванага грыбамі, цыбуляй, мясам ці тварагом.

Асабіста спадар Дар'юш спрабаваў зрабіць мацу — абавязковую страву на свята Пэсах — жыдоўскага адпаведніка праваслаўнай Пасхі.

— Тут прагну заўважыць, з цэлай пашанай для хрысціян, у тым ліку паслядоўнікаў св. Дзіцятка Гаўрыіла, што ў мацу не дабаўляецца ні капелькі крыві. Хачу пераламаць гэты стэрэатып. Адзінымі кампанентамі мацы з'яўляюцца мука і вада. Нават солі там няма. Кроўю жыдоўская кухня, у адрозненне ад хрысціянскай, не карыстаецца ўвогуле.

Мацу гатовіцца каля дванаццаці хвілін. Асноўнае, каб на працягу некалькіх мінут замясіць ваду з мукой. Цеста валкаваць вельмі тонка. Каб прыбавіць яму натуральнай прасторы (гэта цеста без дражджэй) па верху зрабіць відэльцам дзіркі. Засунуць у печ. Выцягваць, калі зрумяніцца. Ашчадныя жыды падсохлую мацу перараблялі ў галкі, якія кідалі ў курыны булён замест макаронаў.

*Дар'юш Шада-Бажышкоўскі — рэжысёр, выпускнік санкт-пецярбургскай Акадэміі тэатра, музыкі і фільма. Перакладчык сучаснай расейскай драматургіі. Сурэжысёр „Тутэйшых" Янкі Купалы для тэлеканала „Белсат". Аўтар шматлікіх фільмавых дакументаў, між іншым, „Беласток — Кірыят Беласток" пра колішніх жыдоўскіх жыхароў Беластока — заснавальнікаў пасёлка Кірыят Беласток у Ізраілі.*

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# „Віктар Швед у маёй школе"


ВІКТАР ШВЕД

ДЗЯЦІНСТВА ПРЫСТАНЬ


Віктар Швед

Мая зялёная зубровія

Прачытаў я ў „Ніве" № 51 (3058) ад 2014 года аб конкурсе „Віктар Швед у маёй школе". Падумаў сабе, што добра было б напісаць пра аўтарскую сустрэчу з Віктарам Шведам, але што можна напісаць не вёўшы дзённіка — некалькі сказаў. Але пэўна лепш напісаць некалькі сказаў, чым нічога. Я ведаю, што мой допіс не вельмі надаецца на конкурс, але пастанавіў здзейсніць нейкі тэкст, каб падзяліцца ўспамінамі з малодшымі беларусамі аб тым, як гэта было „даўно, даўно".

Прыпомніў я сабе, што першая аўтарская сустрэча ў маім жыцці — гэта сустрэча з Віктарам Шведам і Яшай Буршам (Янкам Анісэровічам).

Сустрэча адбылася ў пачатковай школе ў Рыбаках, распаложаных на правым беразе рэчкі Нарва (па-польску — *Narew*), у цяперашняй гміне Міхалова Беластоцкага павета. Пішу дакладна аб месцазнаходжанні, каб было вядома, аб якіх Рыбаках мова, паколькі ёсць яшчэ Рыбакі ў гміне Нарва. Гміна Міхалова мяжуе па рэчцы Нарве з гмінай Нараўка. Так пры нагодзе — па невядомых прычынах у „Ніве" чамусьці пішацца „Нараўчанская гміна", так як бы гмінным цэнтрам былі нейкія „Нараўчаны", а не Нараўка. У нас заўсёды гаварылі і гавораць „Нараўская гміна". І так у „Ніве" трэба пісаць — так, як гавораць аўтахтоны — тутэйшыя беларусы.

Віктар Швед

Выбраныя вершы

„Мая" школа ў „маіх" Рыбаках была пабудаваная „за цара", у 1914 годзе (сам я з вёскі Рудня, якую ў 1985-1990 гадах выселілі польскія камуністычныя ўлады для пабудовы нікому і да нічога непатрэбнага, а нават шкоднага для прыроды і асяроддзя вадасховішча „Семяноўка" *(„Siemianówka")*, разам з сямі іншымі вёскамі, пэўна, як гаворыцца „ў народзе" — як міні-акцыя „Wisła".

Мая мама — жыхарка Рудні, Вольга Зюзя (з сям'і Багдан) вучылася ў школе ў Рыбаках, як то ў нас гаворыцца: „за польскага часу" — да 1939 г. і „за першых саветаў" — 1939-1941 гг. Так для цікаўнасці — каля 30 гадоў таму, дзень перад вяселлем майго траюраднага брата Міхала Боўтрыка (вучня „рыбацкай" школы, цяпер вядомага журналіста штомесячніка „Przegląd Prawosławny"), маю маму адведала яе настаўніца „із польскага часу". Помню гэта таму, што я ў той дзень, у суботу, выбіраўся на братаў падвясёлак у вёску Боўтрыкі.

У школе ў Рыбаках вучыўся таксама цяперашні „бельведэрскі" прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Бандароў (літаратурны псеўданім паэта — Алесь Барскі), працаўнік Варшаўскага ўніверсітэта і многа іншых разумных, цікавых людзей. У „рыбацкай" школе вучылася жонка Віктара Шведа — Валя, тады Казьмерчык.

За маіх часоў у школе ў Рыбаках вучыліся дзеці з Багнюкоў, Бандароў, Боўтрыкаў, Гарбароў, Рудні, Рыбакоў і Таніцы-Гурнае. Усе мы: і праваслаўныя, і каталікі гаварылі на беларускім дыялекце. Навучанне літаратурнае беларускае мовы распачыналася ў другім класе. На заняткі беларускае мовы хадзілі ўсе дзеці, так праваслаўныя, як і каталікі. Беларускае мовы не вучыліся толькі дзеці настаўнікаў — палякаў (прозвішча — Снарскія). У першым класе ў школе былі яшчэ ўрокі рэлігіі. Штотыдзень прыязджалі бацюшка і ксёндз.

Кіраўніком школы быў жыхар Багнюкоў — М. Грыка, называны ў ваколіцы „Базылюта". Ён, як адзіны з нямногіх настаўнікаў, гаварыў у школе з настаўнікамі і вучнямі на беларускай мове. У 1958 годзе ён адышоў на пенсію. Кіраўнічкай школы стала жыхарка вёскі Боўтрыкі Станіслава Сідорчук. З вучнямі яна гаварыла на польскай мове ў школе і па-за школай, а з нашымі бацькамі і іншымі жыхарамі нашых вёсак — на беларускай мове.

Помню, была „акцыя" настаўнікаў (пэўна загаданая кураторыяй асветы), каб мы ў школе гаварылі на польскай мове, але на адным з бацькоўскіх сходаў бацькі пераканалі настаўнікаў, што гэта памылка.

Але час напісаць некалькі слоў пра сустрэчу з Віктарам Шведам. Калі яна адбылася? Дакладна не помню. У пачатковай школе я вучыўся ў 1957-1964 гадах. Так што аўтарская сустрэча адбылася нейкага дня ў 1958-1963 гадах. Помню, што настаўнікі дзень раней паінфармавалі, што будзе сустрэча з беларускімі аўтарамі. На сустрэчу прыехалі Віктар Швед і Яша Бурш. Усе настаўнікі і вучні сабраліся ў найбольшай зале ў школе. Аўтары расказалі коратка пра сябе, а потым чыталі свае творы. Пасля іх выступленняў былі пытанні ад слухачоў. Мне запомнілася, што мяне, маіх сяброваў і сяброў здзівіла тое, што беларускія аўтары жывуць у Польшчы, што яны такія як мы, што гавораць на такой самай мове як мы (дыялект у маім рэгіёне вельмі зблізаны да літаратурнае беларускае мовы). Гэтая сустрэча назаўсёды паўплывала станоўча на беларускую нацыянальную свядомасць маіх сябровак, сяброў і маю.

У 1970 годзе я сустрэўся з Віктарам Шведам у Варшаве ў клубе Беларускага грамадска-культурнага таварыства па вул. Сенатарскай, 8. Віктар пытаў, адкуль я. Успомнілі тады аўтарскую сустрэчу Віктара ў маёй школе ў Рыбаках. У 1970 годзе я быў студэнтам-кадэтам у Вайсковай тэхнічнай акадэміі. У той час Віктар працаваў на невялікую частку штату (стаўкі), за зусім малыя грошы, у Варшаўскім аддзеле БГКТ, вёў бібліятэку ў беларускім клубе, дзяжурыў, быў гаспадаром і добрым духам клуба. Я запісаўся ў БГКТ. З часам мы сталі сябрамі. І з'яўляемся сябрамі да сёння, што для мяне ёсць вялікім гонарам. Віктар Швед даволі часта меў свае аўтарскія сустрэчы ў Варшаве, перш за ўсё для студэнцкай моладзі. Але і для людзей сталага ўзросту. Гэтыя сустрэчы станоўча ўздзейнічалі на беларускую самасвядомасць людзей, якія бывалі на аўтарскіх сустрэчах Віктара Шведа. І на маю таксама: ад школы ў Рыбаках пачынаючы да цяперашняга часу. Беларускі клуб у Варшаве гэта таксама была школа — школа беларускасці, школа жыцця для беларускае моладзі з Беласточчыны, у тым ліку і для мяне. Віктар быў у ёй усім: паэтам, гаспадаром, кіраўніком — а перш за ўсё настаўнікам, прыстойным чалавекам і добрым патрыётам беларускае справы. Вялікае Табе за гэта дзякуй, Віктар! Жадаю многіх гадоў жыцця ў добрым здароўі і шчасці, Табе і Тваёй сям'і!

**Георгі ЗЮЗЯ з Рудні**
**Варшава**

# Каля Гарасімавіч



Палявая дарога на былым чыгуначным насыпе; у фоне – царква ў Ячне

З Ячна падаюся ў напрамку Гарасімавіч. Гладкі як стол асфальтавы насціл ячніцкай вуліцы абрываецца зараз за вёскай, каля могілак. Далей ужо жвіроўка, якая перад самімі Гарасімавічамі перасякае колішнюю чыгунку, што пралягала з Гродна ў Аўгустаў. Да вайны тут, каля Гарасімавіч, быў чыгуначны прыпынак, які ў царскі час называўся Красным Стокам, а ў санацыйны Ружанастокам; цяпер няма пазнакі, дзе той прыпынак быў.

У вёсцы ціха, на вуліцы пуста. Заходжу насупраць будынка былой школы. На школьным панадворку захаваўся яшчэ стэнд з ужо ледзь відочным надпісам з запрашэннем у школу. Перад будынкам легкавушка, да якой заглядае малады мужчына. Заходжу на панадворак, тлумачуся стэндавым запрашэннем, а той малады чалавек запрашае мяне ў сярэдзіну. Інфармую, што я з „Нівы”. Назва гэтая асацыюецца яму з „Ладай”... Заходзім у сярэдзіну. У даўнейшым вестыбюлі дзве велізарныя металічныя кадзі, у чарговым памяшканні — чатыры. Бровар, які атрымаў назву „Słodowy Dwór”, дзейнічае толькі з сёлетняга студзеня. Усе кампаненты завозяцца звонку, а ў Гарасімавічах адбываецца фінальны працэс піваварэння, які доўжыцца некалькі тыдняў. Пакуль што бровар прапануе чатыры сарты; назвы вырабаў загадкава прыцягальныя, напрыклад „Białowieskie” ці „Mgły pszeniczne”. Яго вытворчасць у Беластоку прадаецца гурманам толькі ў лічаных крамах з рэгіянальнымі вырабамі.

Магчыма, што ў будучыні Гарасімавічы праслявяцца новым вырабам больш чым беластоцкія Дайліды. Пакуль што, дагэтуль пра вёску згадвалася ў кантэксце апошняй вайны. Фрагмент аднаго з расійскіх сайтаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне: „На польской земле 26 июля 1944 г. совершил героический подвиг помощник командира стрелкового взвода 1021-го стрелкового полка 307-й стрелковой дивизии коммунист ефрейтор Г. П. Кунавин. В тот день его рота вела тяжелый бой за деревню Герасимовичи, Белостокской области. На подступах к деревне подразделение было остановлено сильным ружейно-пулеметным огнем противника. Ефрейтор Кунавин ценой жизни обеспечил успех роте: он бросился на вражеский пулемет и закрыл амбразуру огневой точки своим телом. Бойцы дружно поднялись в атаку и, стремительным броском ворвавшись в деревню, выполнили боевую задачу. За этот подвиг ефрейтору Г. П. Кунавину посмертно присвоено звание Героя Советского Союза. Память героя свято чтит и польский народ. Жители Герасимовичей 9 августа 1944 г. вынесли решение навечно зачислить Кунавина в список почетных граждан деревни, высечь имя героя на мраморной плите и просить присвоить его местной школе; учителям школы каждый год свой первый урок в первом классе начинать с рассказа о погибшем советском воине и его соратниках. «Пусть прослушают дети рассказ стоя, — говорилось в постановлении. — Пусть их сердца наполняются гордостью за русского брата воина-славянина»”. Гэта вельмі пафасна, бо такой набожнасці патрабавала і патрабуе ўсялякая дзяржаўная прапаганда. На самой жа справе было хіба крыху інакш, бо і людзі ўспамінаюць ваенныя падзеі без усялякіх арэолаў. Пра гродзі, якімі воіны-славяне пагашалі ваенны стрэс, у пафасных жыціях герояў не згадваецца. А пагашалі яго наогул такім жа гаючым рэчывам, якім праведны Ной суцяшаў сваю душу пасля Патопу. І Кунавін быў, верагодна, такога ж складу душы, як і ўсе іншыя ягоныя таварышы па зброі.

Наша мясцовая дэмаграфія пераносіць памяць пра Кунавіна з пакінутай школы ў іншае вымярэнне. Героі маскоўскага духовага космасу, напрыклад Распуцін, Ельцын ці Гарбачоў, увекавечваюцца ў назвах тамашніх гарэлачных вырабаў. Надпісы на бутэльках часта бываюць адзіным відам літаратуры, якую ахвотна чытае кампанейская катэгорыя нашага гродненькага народу. Бутэлькі з працэнтамі — гэта таксама своеасаблівая крыніца адукацыі. Хто ведае, ці з-за гарасімавіцкіх пшанічных туманаў не пакажацца калі-небудзь і імя Грыгорыя Паўлавіча Кунавіна...

За Гарасімавічамі сыходжу са жвіроўкі, што вядзе ў Вострава, і пераходжу на шлях былой гродзенска-аўгустоўскай чыгункі, здзенай у карыстанне ў 1899 годзе і зліквідаванай пасля Другой сусветнай вайны. На яе гарызантальным насыпе зараз пралягаюць роўненькія палявыя дарогі, хаця не па ўсім. Насып быў прадугледжаны для двух пуцей, але дзейнічаў толькі адзін, бо толькі пад адзін пуць асталася падсыпка. На насыпе, пакуль, не расце вышэйшая расліннасць, хаця на іншых, намнога пазней запушчаных чыгунках, успеў ужо вырасці даволі прыстойны лес.




Вуліца ў Грабове



Паштовая скрынка з адрасам

Побач шашы з Вострава ў Дуброву даўно запушчаная валейбольная пляцоўка з рэшткамі сеткі на слупах; адсюль да вёскі каля паўкіламетра. Тут чыгуначны насып пашыраны, відаць былі там стрэлкі і раз’езды. І, мабыць, будынак нейкай канторы. І на яе месцы нехта калісь, калі была яшчэ моладзь у Востраве, задумаў зладзіць такую спортпляцоўку. У самой вёсцы, мабыць, не было пляца, кожны лапік зямлі прызначаўся ў мінулым пад вырошчванне ўраджаю.

Дарог няма на тых адрэзках былога чыгуначнага насыпу, дзе калісь былі масты, ўзарваныя ў час ваенных дзеянняў. Між Гарасімавічамі і Грабовам два такія праломы. На першым з іх не астаўся ніякі след ад моста над невялікім ручаём, затое на другім, дзе быў мост на рачулцы Крапіўне, асталася адна змураваная з камянёў апора ды некалькі зрэзаных драўляных паляў у вадзе. Відаць, зараз пасля праходу фронту савецкія сапёры збудавалі мост дзеля паставак ваеннай тэхнікі для наступаючага на Усходнюю Прусію правага фланга 2 Беларускага фронту. Пасля зносу рэек драўляная канструкцыя моста таксама была знесена, а драўніна выкарыстана для новых аб’ектаў мірнага прызначэння.

Жвіроўкай, што вядзе з боку Крапіўна ў Грабова, кіруюся ў названую апошняй мясцовасць. З Грабова выйшла двух ксяндзоў, якія ў маладосці прымыкалі да беларускага нацыянальнага руху: Нікадзім Кавалеўскі і Альбін Радзівон. Звестка на сайце Бярозы (вядомай раней як Картуз-Бяроза): „Ксёндз Нікадзім Кавалеўскі нарадзіўся 1.1.1888 у мясцовасці Грабова Сакольскага павета Гродзенскай губ. Паходзіў з сялянскай сям’і: бацькі — Сямён і Марыяна (з дому Грыжанёвых) Кавалеўскія. Атрымаў хатнюю адукацыю. У 1905 г. скончыў Сакольскае гарадское 3-класнае вучылішча. Прадоўжыў вучобу ў рэальным вучылішчы Цэсарэвіча Аляксея ў Гродне. З 1910 г. — на 1-м курсе Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Прымаў удзел у дзейнасці культурна-асветнага гуртка беларусаўклерыкаў. Выбыў 12.11.1911 з 2-га курса ў сувязі з пераходам у свецкае званне для паступлення на вайсковую службу. На пачатку 1914 г. выказаў жаданне вярнуцца ў лік выхаванцаў семінарыі. Пасвячоны ў святары 26.5.1918. Душпастырскую дзейнасць распачаў у гэтым жа годзе на пасадзе вікарыя ў г. Кобрын. З 1921 г. — пробашч у г. Картуз-Бяроза. У 2-й палове 30-х гадоў кіраваў спачатку Пружанскім, а пазней Цеханавецкім дэканатамі Пінскай дыяцэзіі. З часоў вучобы ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам”. На сайце цеханавецкага ліцэя: „W roku 1934 zostaje mianowany proboszczem i dziekanem w Ciechanowcu. W czasie okupacji hitlerowskiej aresztowany i przetrzymywany przez pewien czas w więzieniu w Białymstoku. Od 1947 roku jest Kanonikiem Kapituły Pińskiej. W roku 1965 przeniesiony z Ciechanowca na probostwo do Topczewa. Z dniem 1 sierpnia 1968 roku przeszedł na emeryturę, pozostając rezydentem w Topczewie. W 1968 roku wyróżniony godnością Prałata Papieskiego. Ks. Nikodem Kowalewski znany był z dobroci serca, gościnności i życzliwości”. Памёр ксёндз Кавалеўскі 7 сакавіка 1974 года.

Партал slounik.org: „Ксёндз Радзівон Альбін нарадзіўся 15.05.1892 у в. Грабова Сакольскага павета Гарадзенскай губ. Паходзіў з сялянскай каталіцкай сям’і Фелікса Радзівона. У красавіку 1912 г. пры Гарадзенскай мужчынскай гімназіі здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня. У 1912-1918 гг. вучыўся ў Магілеўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Пасвячоны ў святары 07.04.1918. З 1923 г. служыў законавучыцелем у мястэчку Глыбокае. Пазней быў прызначаны на пасаду вікарыя ў Беластоку (1929). З гадоў вучобы ў Пецярбургу звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам. Матэрыяльна падтрымліваў выданне беларускіх рэлігійных часопісаў і газет. Пасля Другой сусветнай вайны выконваў святарскія абавязкі ў Беластоцкай архідыяцэзіі. Працаваў у пракафедральнай парафіі ў Беластоку. На пачатку 1970-х гадоў выйшаў на пенсію. Памёр 21.01.1976”.

Перад першымі збудаваннямі Грабова, на ўзвышшу пашы, заўважаю нешта накшталт магілы; кіруюся туды. Сапраўды, там, у суседстве маладых бярозак абгароджаны салідным жалезным плотам гранітны намагільнік, а на ім абаперты на агароджу гранітны ўсходні крыж; на пліце надпіс: „Dwóch nieznanych żołnierzy Armii Czerwonej 1944 r.”... Здаецца, што ўсе людзі роўныя. Яны, магчыма, і роўныя, але перад Усявышнім. Але перад людской памяццю, ці — дакладней — перад фармавальнікамі той памяці, яны раскіданы па самым шырокім спектры. Вось згадвалася пра Кунавіна, які недзе пасярэдзіне ўсеагульнай вядомасці, бо ёсць яка ж больш вядомыя за яго героі. А пра гэтых апошніх двух і зусім нічога невядома, бо якая гэта інфармацыя, што яны загінулі пад Грабовам, калі нічога іншага невядома пра іх, калі тае ананімнае весткі няма да чаго прывязаць. Прызнаюся, што падобнае адчуванне найшло на мяне пры думцы і пра двух грабоўскіх ксяндзоў. Кволенькая памяць пра іх маладыя беларускія захапленні захоўваецца здалёк ад іх роднай мясцовасці і здаецца, што яны — па-за Грабовам, як тыя ананімныя чырвонаармейцы, быццам *dwóch nieznanych księży o młodzieńczych białoruskich sympatiach*...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Беларускі музей — здзейсненая мара Алёшы




**„Як жа цешуся, што беларускі музей узнік і паступова пашырае сваю калекцыю” — напісаў у Кнізе водгукаў Беларускага музея ў Гайнаўцы лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Чэслаў Мілаш.**

У той жа кнізе ў 1994 годзе міністр замежных спраў РБ Пётр Краўчанка зазначыў: „(...) у маім уяўленні гэта не проста беларускі музей, а духоўнае апірышча беларусаў на Беласточчыне (разам з Праваслаўнай царквой). Сведчанне таго, што тут беларусы жылі яшчэ стагоддзі назад”.

Багаты кнігазбор, этнаграфічныя выстаўкі, выставы не толькі беларускіх мастакоў, мастацкія конкурсы, калектывы, канцэрты, тэатральныя спектаклі, фільмы і шмат-шмат чаго яшчэ прапануе сваім наведвальнікам Беларускі музей у Гайнаўцы.

Ідэя яго заснавання нарадзілася ў час Першага З’езда БГКТ у 1956 годзе. Пачаткова, беручы пад увагу турыстаў, музей быў створаны ў Белавежы, дзе з вялікім поспехам дзейнічаў з 1966 па 1972 год. Канчатковае яго закрыццё было звязана з непрыхільнымі адносінамі дзяржавы да спраў нацыянальных меншасцей. У 1983 г. начальнік горада Гайнаўка інжынер Станіслаў Кастэра перадаў Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству ўчастак і будынкі былой фабрыкі дошак і мазаікі Гайнаўскага прадпрыемства драўнінннай прамысловасці ў самым цэнтры Гайнаўкі. Год пазней заснаваўся Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху на чале з Кастусём Майсенем. Неадкладна забраліся за працу. Пабудова музея завяршылася ў 2001 годзе. Год пазней ажыццяўлялі ў ім ужо поўную культурна-асветніцкую праграму.

Аляксей Харкевіч з Беларускім музеем у Гайнаўцы звязаны ад самога пачатку. 82-гадовы ваенны, педагог, а перш за ўсё грамадскі дзеяч, зусім не любіць пра сябе гаварыць. Прымушаны, літару „я” заступае словам „мы”. Душой і целам адданы беларускай справе, але не высокім пасадам. Таму яго імя не віднее ў першых спісках членаў управы Грамадскага камітэта пабудовы музея — пачаткова імя Канстанціна Каліноўскага, потым беларускай меншасці і рэвалюцыйнага руху ці помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху.

Апошнім часам вельмі хацеў саступіць месца маладым — сваім выхаванцам, але не атрымалася. Прасілі не выходзіць з Рэвізійнай камісіі і надалей служыць парадай і шматгадовым вопытам.

Яго мара пра стварэнне беларускага музея збылася.

— Хутчэй нам кактус на руцэ вырасце, чым пабудуеце гэты музей, — пачуў ад настаўнікаў школы ў Лешуках, у якой ставіў першыя крокі ў педагагічнай прафесіі.

— Ездзілі па вёсках, збіралі жыта і збожжа ад гаспадароў, потым прадавалі. Нават на Грабарцы на Спаса былі. Там зараблялі па 20, 50 і 100 злотых на кожнай музейнай „цаглінцы”. Пакупнікоў не бракавала. Сярод іх апынуўся сам Лявон Тарасэвіч — чалавек, які кулям не кланяецца. „Цаглінку” набыў, але не верыў, што нешта з гэтага атрымаецца. Гайнаўскага музея так і ніколі не наведаў.

У пабудове шмат дапамагла заграніца, а асабліва беларуская дыяспара Нямеччыны і Злучаных Штатаў Амерыкі. Ад падтрымкі не адмовілася і Беларусь. Людзі вельмі стараліся, рабілі што маглі, прытым бясплатна. У асноўным былі гэта жыхары Гайнаўкі і наваколля. Прыходзіла і моладзь, асабліва вучні Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў, а таксама мясцовага прафтэхвучылішча.

— Будаўнічыя матэрыялы, у тым ліку беларуская цэглы, бывала, прывозілі ўначы, — успамінае Алёша Харкевіч. — З разгрузкай да раніцы чакаць не будзеш, таму што гэта дадатковы кошт. Трэба як найхутчэй сабраць людзей. А колішнія цэглы не такія, як цяперашнія. Добра мы іх папацягалі. Дождж ідзе, мы разгружаем, а разам з намі мясцовы сакратар партыі. Не раз прыходзілася начаваць на будове, пільнаваць, каб нічога не раскралі. Іншага выхаду не было. Здаецца, цяпер цяжка было б разлічваць на такую бескарысную дапамогу.

Найбольш балючай справай з’яўляецца ўтрыманне аб’екта. Дзяржаве аддаць музей было немагчыма. Такія спробы за „Салідарнасці” закончыліся дзяржаўнымі планамі пераўтварэння яго ва ўсякую ўсячыну з лесапільняй і ўкраінцамі ў дадатак.

— Крыху дапамагае міністэрства, але ў асноўным трэба разлічваць на сябе, — прызнае спадар Алёша. — У адным з памяшканняў маем рэстаран, у другім канцылярыю сенатара Цімашэвіча. Вось так зарабляем.

На беларускім, чуллівым сэрцы спадара Алёшы каменем ляжыць справа судовага працэсу з 2008 года. У яго выніку музей быў абавязаны выплаціць БГКТ 250 тысяч злотых за вечнае карыстанне грунтамі — права ўласнасці да зямельнага ўчастка. Не дапамаглі доўгія спробы палюбоўнага завяршэння справы дарогай узаемнага зразумення. Музей быў вымушаны дамагацца сваіх правоў у судзе. БГКТ запатрабавала выкупу правоў уласнасці зямельнага ўчастка. Супольная ідэя пабудовы музея прапала. Збядмеў сам музей, якому яшчэ доўга прыйдзецца выплачваць засуджаную суму.

— Цяпер нам дах трэба адрамантаваць. Але не здаемся, гэтага навучыў нас Майсеня. Надта ён быў заўзяты.

Гэтую заўзятасць да бескарыснай абароны беларускай справы спадар Алёша перадаў наступным пакаленням. Менавіта ў іх руках цяпер знаходзіцца музей.

— Музей інтэгруе нашу беларускую супольнасць. Як у хаце адчуваюць сябе тут не толькі беларусы. Столькі адданых людзей прыходзіць, столькі выдатных артыстаў. Часам нас абвінавачваюць, што мы, беларусы, апанавалі цэлую Гайнаўку але, па-мойму, тут усе роўныя і няма ніякіх антаганізмаў. Нават прэзідэнт Браніслаў Камароўскі да нас завітаў.

— Я гэтым жыву, але неяк апошнім часам крыху дабіўся. Мабыць, трэба адпачыць... — сказаў на развітанне спадар Алёша.

Гэта была мая апошняя гутарка з Аляксеем Харкевічам. Адбылася яна тыдзень да Вялікадня.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




Беларус — знакаміты географ

## 170 гадоў таму нарадзіўся Іван Чэрскі



Выдатны натураліст, даследнік Сібіры, геолаг і географ Іван Чэрскі нарадзіўся 15 траўня 1845 г. у фальварку Свольна Дрысенскага павета (цяперашні Верхнядзвінскі раён, Віцебская вобласць). Расійская і польская гістарыяграфії традыцыйна запісваюць усіх удзельнікаў вызвольнага чыну 1863 г. у палякаў. А ўсіх выдатных падарожнікаў у „рускіх” ці „палякаў па нацыянальнасці”. Аднак, гэта часта не адпавядае рэчаіснасці і гістарычнай праўдзе. Так, Іван Чэрскі не напісаў па-польску аніводнай працы і ўвогуле ніколі не быў у Польшчы. Вось што пісаў ён з Іркуцка на радзіму ў лісце да сястры Міхаліны: „Я тут ужо абрусеў і стаў забывацца роднай беларускай мовы”. Адзін гэты факт выразна сведчыць пра нацыянальную прыналежнасць нашага героя.

Яшчэ хлопчыкам Іван атрымаў выдатную хатнюю адукацыю, вывучыў некалькі замежных моў. З 1860 г. Чэрскі быў студэнтам Віленскага дваранскага інстытута. За ўдзел у паўстанні пазбаўлены дваранства, грамадзянскіх правоў, маёнтка, здадзены ў салдаты і высланы ў Сібір. Яшчэ на этапе сышоўся з украінскім геолагам Аляксандрам Чаканоўскім, які паўплываў на яго светапогляд. Высылку адбываў у Омску, пры першай магчымасці заняўся навукай. У 1869 г. у звязку з хваробай сэрца вызвалены ад вайсковай службы і пераведзены на вольнае пасяленне, але ажно да 1883 г. палітычны ссыльны. У 1871 г. запрошаны Сібірскім аддзелам Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства ў Іркуцк, дзе працаваў пад кіраўніцтвам таго ж Чаканоўскага.

Пасля амністыі з жонкай і сынам у 1885 г. па запрашэнні Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук пераехаў у Пецярбург, дзе абагульніў геолага-геаграфічныя веды па Сібіры. У 1891 г. Іван Чэрскі ўзначаліў экспедыцыю ў раён рэк Калыма і Індыгірка. Адчуваючы сябе блага, ён аднак кіраваў экспедыцыяй, вёў запісы, дыктаваў жонцы і сыну свае назіранні. Прасіў іх абавязкова скончыць экспедыцыю і ўсе калекцыі і запісы перадаць у Пецярбург. Памёр у нізоўях Калымы, каля вусця ракі Амалон.

Найбольшых дасягненняў Чэрскі дабіўся ў галіне геалогіі і геаграфіі. Значны след пакінуў у заалогіі, анатоміі, археалогіі, метэаралогіі. Адкрыў многа розных геаграфічных аб’ектаў, першым знайшоў і даследаваў палеалітычную стаянку ў Сібіры, сабраў і апісаў шэраг сучасных і выкапнёвых жывёл. Праводзіў геалагічныя і палеанталагічныя даследаванні ў Саянах, Прыбайкаллі, у басейне Ангары і Ніжняй Тунгускі, склаў першую геалагічную карту ўзбярэжжа возера Байкал, даследаваў басейн ракі Селенга (Бурацыя). Быў узнагароджаны Рускім геаграфічным таварыствам малым срэбным і малым залатым медалямі, залатым медалём імя Фёдара Літке. Выказаў ідэю эвалюцыйнага развіцця рэльефу.

Ля паселішча Калымскае ў 1943 г. Івану Чэрскаму быў пастаўлены помнік. Яго імя носяць працяглая (больш за 1500 км) горная сістэма паміж рэкамі Калыма і Яна ў Якуціі і Магаданскай вобласці, горны хрыбет у Забайкаллі, пасёлак на р. Калыма ў Якуціі, найвышэйшая (2763 м) вяршыня Байкальскага хрыбта, адзін з вулканаў Тункінскай упадзіны на Усходнім Саяне і іншыя геаграфічныя аб’екты. У в. Вальнцы адкрыты музей Чэрскага. У Свольне, на месцы фальварка, Беларускае геаграфічнае таварыства паставіла помнік — вялікі валун. Імя Чэрскага носіць Іркуцкае таварыства беларускай культуры.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# http://history-belarus.by

Пра гісторыю Беларусі, якая прадстаўлена на сайтах у інтэрнэце, „Ніва” пісала неаднойчы. Але цяперашняя сітуацыя ў свеце, асабліва пагроза распаўсюду ідэалогіі так званага „рускага міру”, якая ў сваёй сутнасці сугучна ідэалогіі Трэцяга рэйха, прымушае свядомых беларусаў да надання большай увагі ўласнай гісторыі. Магчыма, менавіта таму, не так даўно ў інтэрнэце з’явіўся новы сайт пра беларускую гісторыю, прычым адлюстроўваючы пункт погляду сучаснага беларуса, які турбуецца за Беларусь, беларушчыну, беларускую мову.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп’ютары адрас **http://history-belarus.by**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне сайта „Кароткая гісторыя Беларусі за апошнія 1000 гадоў”, цэнтральным сімвалам якога ёсць герб „Пагоня”. Яна адразу вызначае ідэйную накіраванасць зместу сайта — дэмакратычную і незалежніцкую. Маленькі бел-чырвона-белы сцяжок у правым верхнім вугле, які з’яўляецца пераключальнікам моўнай версіі, пацвярджае, што гісторыя Беларусі тут будзе апісвацца з прабеларускіх пазіцый.

Зразумела, што беларускамоўны беларус, якіх што ў Беларусі, што ў Польшчы не вялікі працэнт ад тых, хто сябе адносіць да нашага народа, адразу націсне на бел-чырвона-белае выяўленне. Аднак там яго чакае расчараванне. „Беларуская версія сайта зараз у стане распрацоўкі. Калі ласка, паспрабуйце зайсці пазней, альбо далучыцеся да каманды перакладчыкаў. Выбачайце, шаноўнае спадарства, але той, хто штодзённа карыстаецца роднай мовай, увогуле лепш ведае гісторыю Бацькаўшчыны. Таму рускамоўная версія сайта выглядае больш актуальнай”, — пішуць уладальнікі і распрацоўшчыкі сайта. Дарэчы, пра іх можна даведацца, калі ўжо на рускамоўнай версіі перайсці на старонку About (Аб праекце). На той жа старонцы распавядаецца і аб сэнсе стварэння сайта.

Аказваецца, прычынай яго з’яўлення стала тэма конкурсу, абвешчанага Еўрапейскім каледжам Liberal Arts „Як вы ўяўляеце сабе „ідэальны” школьны падручнік па гісторыі Беларусі?”. І сайт арыентаваны на тых, хто з адрывачных ведаў і афіцыйнай гістарычнай кашы спрабуе, але не можа скласці для сябе зразумелай карціны гісторыі свайго народа. „Ім не ўсё роўна, але няма часу і вялікага жадання купляць і чытаць тоўстыя кнігі і прарывацца скрозь лацінскія і старaславянскія цытаты на форумах знаўцаў. Аднак пачуваць сябе балванам, бачачы і чуючы глупства і не маючы аргументаў яго абвергнуць — для іх абразліва. Яны могуць спакойна ўспрыняць пазіцыю беларускага нацыяналіста, а лозунгі „рускага міру” выклікаюць у іх трывогу”, — распавядаецца ў падрубрыцы „Навошта гэта?”.

Сайт падзелены на некалькі старонак, выйсці да якіх знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення. Гэта, у прыватнасці, „Час” (Время), „Падзеі” (События), „Людзі” (Люди), „Паняцці” (Термины), „Тапонімы” (Топонимы), „Артыкулы” (Статьи).

На старонцы „Час” знаходзіцца карта, складзеная этнографам Яўхімам Карскім напачатку мінулага стагоддзя. Адметна, што прыводзячы там з правага боку выяўлення розныя датычныя Беларусі гербы, уладальнікі сайта не прадставілі цяперашняга дзяржаўнага. Паводле іх, у XX стагоддзі беларускі народ зноў здабыў незалежнасць, але страціў сваю старажытную сталіцу, герб, сцяг, імя і забыўся пра сваіх герояў.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# Выбарчыя развважанні

Перад прэзідэнцкімі выбарамі доўга я задумоўваўся, за якога кандыдата прагаласаваць. Дагэтуль, па-мойму, ніводзін з адзінаццаці прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла не выявіў карціны будучыні краіны. Адно кармілі нас абяцаннямі і мрояй краіны, у якой малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. І я, як патэнцыяльны выбаршчык, вымушаны быў глытаць гэтую выбарчаю каўбаску. Шчыра прызнаюся, што мая пячонка не можа ператравіць паталагічных хібаў грамадскай несправядлівасці, якая квітнее ў службе аховы здароўя. Хто адкажа, напрыклад, чаму лекары не карыстаюцца фіскальнымі касамі ў прыватнай практыцы і гэтым самым не плацяць падаходнага падатку? Такое ж тычыцца і душпастыраў. А ці яны не з'яўляюцца грамадзянамі Рэчы Паспалітай? А што з правапарадкам і правасуддзем? Лепш не гаварыць. Адзін садом ды гамора! Іншых прыкладаў са сферы грамадска-эканамічнай штодзёншчыны можна прыводзіць бяскрайнюю меру. Мяне, напрыклад, цікавіць неабходная рэформа ў службе аховы здароўя. Ці вымушаны буду чакаць да лекара-спецыяліста ў шматмесячных чэргах, або аперацыі чакаць гадамі? Што з пенсіянерскай сістэмай? Ці надалей пенсіянерам са „старога партфеля" будуць прыбаўляць у год па трыццаць-сорак злотых? Дагэтуль я не памятаю ніводнай станоўчай праграмы ў кандыдатаў у прэзідэнты, у якой прад'яўляліся б рэальныя планы рэалізацыі даваных імі абяцанак. Таму я скептычна паставіўся да першага тура выбараў. Думаў зусім не галасаваць. Але ў апошнія хвіліны вырашыў пайсці на выбарчы ўчастак. Калі школьны аўтобус у нядзелю, 10 мая, праімчаўся кузаўскай вуліцай пад святліцу за выбаршчыкамі, дык хуценька апрануўшыся, выскачыў на панадворак. Аўтобус вяртаўся назад з... адным выбаршчыкам, пенсіянерам Мікалаем Раманчуком. Перад будынкам школы ў Чаромсе, як і ў зале я не прыкмеціў натоўпу, як гэта было ў час самаўрадавых выбараў. На спісках свайго салэцтва віднелі паасобныя подпісы тых, якія прагаласавалі да чатырнаццатай гадзіны. Значыцца, кузаўцы памяркоўна паставіліся да першага тура выбараў. Лічу, што ў другім туры яўка выбаршчыкаў будзе большая, да чаго аднасяльчан заклікае ніжэйпадпісаны.

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. У Чаромхаўскай гміне яўка на выбарчых участках склала 38,89%. На Браніслава Камароўскага прагаласавала 40,5% выбаршчыкаў, Паўла Кукіза — 22,89%, Анджэя Дуду — 18,97% і Магдалену Агурэк — 6,5%.



Выбарчы ўчастак у Чыжах

Паводле папярэдніх вынікаў, кандыдат ад апазіцыйнай партыі „Права і справядлівасць", 42-гадовы юрыст з Кракава **Анджэй Дуда** набраў 34,50%, а дзейны прэзідэнт з „Грамадзянскай платформы" **Браніслаў Камароўскі** — 33,10%. Рок-музыкант **Павел Кукіз** набірае 20, 50%. Перад намі другі тур выбараў 24 мая 2015 г.

XXXIV Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej w Białymstoku

**PROGRAM FESTIWALU**

Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

**INAUGURACJA FESTIWALU 19.05.2015 (wtorek) godz. 19.00**

**OTWARCIE FESTIWALU** Chór Młodzieżowego Domu Kultury w Białymstoku pod dyr. Barbary Kornackiej
Kijowski Chór „Sofia" Narod. Związku Kompozytorów Ukrainy pod dyr. Aleksieja Szamrickiego

KONCERT INAUGURACYJNY

*„Muzyka cerkiewna - od źródeł do współczesności"* dedykowany Romualdowi Twardowskiemu z okazji Jubileuszu 85-lecia w wykonaniu Kijowskiego Chóru „Sofia" Narodowego Związku Kompozytorów Ukrainy pod dyr. Aleksieja Szamrickiego

**KONCERTY - PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE**

**21.05.2015 (czwartek) godz. 17.00**

Chór Żeński „Dimitrios" Poráč (Słowacja)
Chór Żeński Orsza (Białoruś)
Chór „Capella Orientalis" Budapeszt (Węgry)
Chór „Schola Cantorum Maximilianum" Józefów (Polska)
Chór Kameralny „Łybid" Kijów (Ukraina)
Chór Dziecięcy Świetłogorsk (Białoruś)
Chór Kameralny „Rapsodia" Kiszyniów (Mołdawia)
Akademicki Chór „Angel Manołow" Sofia (Bułgaria)

**22.05.2015 (piątek) godz. 17.00**

Chór Dziecięcy „Cantare" Orsza (Białoruś)
Młodzieżowy Chór Kameralny „Vaimustus" Narwa (Estonia)
Chór Dziecięcy „Lel" Zielenograd-Moskwa (Rosja)
Chór Młodzieżowy „Collegium Juvenum" Olsztyn (Polska)
Chór „Megiddo" Yokneam Illit (Izrael)
Chór „Ranica" Mińsk (Białoruś)
Chór Męski „Simwoł Wiery" Woroneż (Rosja)
Chór Męski „Słowiki 60" Szczecin (Polska)

**23.05.2015 (sobota) godz. 16.00**

Zespół Wokalny Uczelni Muzycznej Kłajpeda (Litwa)
Chór „Concertino" College'u Muzycznego Mińsk (Białoruś)
Chór Kameralny Akademii Muzycznej Katowice (Polska)
Chór „Oswita" Uniwersytetu Pedagogicznego Ternopol (Ukraina)
Chór Prawosławnego Duchowieństwa Dubno (Ukraina)
Chór Kameralny „Classic" Mińsk (Białoruś)
Chór Filharmonii „Collegium Cantorum" Częstochowa (Polska)
Chór Państwowej Filharmonii Czelabińsk (Rosja)
Chór Narodowego Radia Ukrainy Kijów (Ukraina)

ZAKOŃCZENIE FESTIWALU 24.05.2015 (niedziela)

godz. 14.00 - Ogłoszenie wyników i wręczenie nagród godz. 16.00 - Koncert Galowy

# 17.05 — 23.05

**(22.03. — 20.04.)** Чакаюць цябе змены. Могуць цябе здзівіць найбліжэйшыя, трымай свае нервы на павадку. Не дуйся. Не ляпні чагосьці знячэўку. Хтосьці з далейшых сваякоў можа запрапанаваць табе вельмі цікавы выезд; можа быць гэта падарожжа твайго жыцця. Не нервуйся, бо гнеў цябе можа спаліць. На працы супрацоўнічай.

**(21.04. — 21.05.)** 16-18.05. рамантызм, чуласць, добрая інтуіцыя; знакаміта табе пойдзе ў каханні і інтарэсах. 16-19.05. далейшая сям'я акажа табе многа ўвагі і прыхільнасці. Да 20.05. можа дайсці паміж табою і адным з калег да сур'ёзных перапалак; не ратуй сілай адносін, якія мала ўносяць у тваё жыццё. Пасля 20.05. могуць дастаць цябе стома і горшы настрой; не бяры на сябе зашмат. Можаш наладзіць карыснае супрацоўніцтва з сумленным чалавекам. Не бяры пазык у маі! І не выдавай грошай на непатрэбнае.

**(22.05. — 22.06.)** 19.05. будзеш вымушаны адмовіцца ад некаторых дзеянняў або ўстрымацца з рэалізацыяй чагосьці, на чым табе залежала. З 21.05. рост тваёй эфектыўнасці і аператыўнасці. Людзі дацэняць твае старанні. Заўважыць цябе хтосьці, на кім табе залежыць. 21.05. пазмагайся за павышэнне, змену пасады. Давер старэйшаму дасведчанаму Казярогу.

**(23.06. — 23.07.)** 18.05. дасканалая нагода да ініцыявання мерапрыемстваў, у якіх будзе ўдзельнічаць большы лік асоб. Здзейсняцца твае мары або здабудзеш тое, на чым табе залежыць. Схадзі да лекара, пакарыстайся натуральнай медыцынай, змяні прычоску.

**(24.07. — 23.08.)** Сонца з 21.05. накіруе тваё жыццё на новыя пуці. З лёгкасцю зрэалізуеш свае памкненні, уключаючыся ў дзеянні, на якіх можаш шмат здабыць і мець ад іх канкрэтныя карысці. Тоўстыя Львы могуць панаракаць на здароўе — боль у суставах, пазваночніку, праблемы з кровазваротам — змяніце стыль жыцця, варушыцеся.

**(24.08. — 23.09.)** Быка абмінай здалёк. З Шалямі варта бліжэй пазнаёміцца і нават зрабіць з імі бізнес. Леў палічыць цябе сапернікам, а Блізняты могуць цябе ўзяць у цікавае падарожжа. З 18.05. удала пакоцяцца справы, звязаныя з хатнім бюджэтам, з фінансава-дзяржаўнымі ладамі. Можаш разлічваць на шчодрасць сваякоў і людзей, якіх ты лічыў скупярдзяямі. Затое на працы трэба будзе ад чагосьці адмовіцца, бо хтось стане табе папярок дарогі.

**(24.09. — 23.10.)** Не ацэньвай людзей павярхоўна — пад сярэднясцю можа хавацца дыямент. Пад канец тыдня дома магчымыя тэхнічныя аварыі. 21.05. — добры момант пачаць мерапрыемствы, якія ты адтэрміноўваў. Пачнеш штодзённыя шпацыры з кіёчкамі? Адмоўся, аднак, ад рэзкіх дыет. А 20-24.05. дарвуцца да цябе нялёгкія эмоцыі.

**(24.10. — 22.11.)** 20-24.05. не будзь зайздросным і захопніцкім — бо калі да кагось знеахвоцішся, доўга гэтага не пазбудзешся. Вырашэнні ў нялёгкіх сардэчных справах самі развяжуцца. На працы не вагайся працягнуць руку па большае, карыстайся парадамі больш дасведчаных калег. Але пазбягай важных прыёмаў у прафесіі 21-25.05., бо справы могуць абярнуцца не так як хочаш. Дбай аб дыету, высыпайся — праз 2 месяцы ўбачыш цудоўныя вынікі!

**(23.11. — 22.12.)** 16-19.05. будзеш спакушаць на ўсю катушку, аж даб'ешся свайго. Таксама шмат даведаешся пра партнёра. 17-19.05. паявяцца перспектывы новай працы, якія табе вельмі спадабаюцца. Нанова прачнецца ў табе аптымізм, і вернешся да закінутых планаў. Для добрага здароўя дзейнічай паводле раскладаў.

**(23.12. — 20.01.)** Час здзейсненых мараў, кахання і рамантычных сустрэч. Можаш пазнаёміцца з кімсьці, з кім перажывеш цудоўную прыгоду жыцця. 16-17.05. не будзь лішне бескампрамісным. З 21.05. не чапляйся лішне да партнёра.

**(21.01. — 19.02.)** 17-19.05. падмацуюцца твае рашучасць і сіла. Лёгка зрэалізуеш усе свае намеры. Але калі больш паставіш на сваю кар'еру, могуць паслабіцца кантакты, асабліва з далейшымі сваякамі, а нават яны могуць пакрыўдзіцца. Але з сябрамі дагаворышся. Абавязкова іграй у латарэю! Неўзабаве адкрыюцца для цябе новыя магчымасці — толькі працягнуць руку!

**(20.02. — 21.03.)** 16-18.05. будзеш цешыцца добрым густам, уражлівасцю ды поспехамі ў каханні. 17-19.05. шчаслівыя выпадкі; многа здабудзеш падарожнічаючы; здабудзеш каштоўныя інфармацыі. Слухайся парад лекара, праводзь актыўна час. Пі больш вадкасцей, еж гародніну (але не шчаўе і шпінат). Можаш атрымаць неспадзяваныя грошы, прытрымай іх — спатрэбяцца!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | 2 | | 3 | | | | 4 | | | | 5 |
| | | | | | | | | | | | | | | 6 | |
| 7 | | | | 8 | | | | | | | | | | | |
| | | | 9 | 10 | | | | 11 | | 12 | | | | | |
| | | 13 | | | | | | 14 | 15 | | | 16 | | | |

1. Венера, Зямля або Марс, 2. надоеная колькасць малака, 3. альпійскі вецер для... сушкі валасоў, 4. знешняе пачуццё, якое ўспрымаецца вушамі, 5. пасудзіна для корму свіней, 6. еўрапейскі мастацкі стыль, названы па імені германскага племені готаў, 7. высокая балотная расліна, ад якой літаратурнае прозвішча ўзяў Міхал Кудзелька, 8. гумавы дыск для гульні ў хакей, 9. вакальны ансамбль, 10. пляцоўка для абмалоту збожжа, 11. спецыяліст па вырабе і рамонце медных рэчаў, 12. асоба з Адамавага рабра, 13. марскія хвалі, абіваючыя бераг, 14. першая, другая або трэцяя група людзей, якая нясе частку кругласутачнай службы, 15. колішняя назва аўтахтоннага жыхара Таймыра, 16. жорсткі прыгнятальнік.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Замша, зыб, комін, пі, сені, чэх, шчаўе, як. Рашэнне: **Ехаўшы бачком з нікім не зачэпішся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.


На прывакзальным базары ў Ковелі

# У палескай глыбінцы (1)

Напачатку быў шок. Ад верасня мінулага года, калі я апошні раз пабывала ва Украіне, грамадства настолькі збяднела ды правалілася ў глыб сваіх штодзённых спраў, што не верылася. Дзесьці ўжо за Холмам час пачаў губляць здаровы рытм. Хоць у аўтобусе ўсе маўчалі або дрsmalі, на душу налятаў неспакой ды ірваліся думкі, немагчыма было нават чытаць. Прачытаныя радкі інтэрв'ю-ракі з Юры Андруховычам* быццам з дапамогай чараў вывейвала за акно, на заспаныя імшары. І яшчэ, як на злосць, усё тут спазнялася. Украінскі аўтобус, які вёз мяне з Любліна ў Ковель, спазняўся на дваццаць пяць хвілін. Хоць больш хвалявала спазненне ў прыродзе. Едучы ад паўночнага Беластока на паўднёвае Палессе, я спадзявалася больш буйной зелені і веснавой цеплыні. Мне хацелася злавіць у фотааб'ектыў пачатак палескай вясны, якой колеры і сакавітасць немагчыма параўнаць з нічым на свеце. А тут нечаканасць, вегетатыўны перыяд, у параўнанні з запозненым Падляшшам, спазняўся на тыдзень.

Аднак сапраўдны шок чакаў у горадзе Ковель. Здавалася, час адступіў назад на дзесяць гадоў.

* * *

Польска-ўкраінскую мяжу пераехалі цягам адной гадзіны, да таго з прыгодамі.

— Оля! Оль! Кантроль ідзе! Вставай! — тузалі пад бок храпучую прыгажуню, спачатку суседзі, пасля шафёр, а на канец польскі памежнік. П'яная дзеўка нешта бурчала пад носам і драмала, быццам пшаніцу прадаўшы. Нехта дабыў з яе сумкі пашпарт і падаў памежніку. Той толькі праверыў штэмпелі і замест слова „дзякуй", якое гаварыў кожнаму пасажыру паасобку, заінтанаваў: *Ola-la! Ola-la!*

У аўтобусе ўздыхнулі з палёгкай. Відаць, такая зразумеласць для людскіх слабасцей не была тут нормай. Каб адрэагаваць непрыстойныя паводзіны Олі, нейкая цётка выказала словы абурэння:

— Нарубалася як у акопах на фронце!

Праз аўтобус праляцела хваля здаровага рогату. Да гэтай пары людзі маўчалі або размаўлялі між сабой шэптам. Яшчэ большая радасць і расслабленне запанавалі, калі польскі памежнік вярнуў пашпарты і жэстам рукі ўказаў ехаць ва Украіну. Абы хутчэй, абы далей ад сябе...

На пагранзаставе ва ўкраінскім Ягадзіне чакала дадатковая цырымонія. Спачатку ўсе ўзяліся будзіць спячую Олю. Дзеўка далей ляжала як калода з нагамі перакінутымі праз парэнчу фатэля. Яе ступкі агарталі белыя шкарпэткі з парванымі наскамі, праз якія выглядалі неахайна памаляваныя па сіні колер ногці. У рэшце рэшт яе пакінулі ў спакоі, затое ўсіх апошніх сагналі на пляц і загадалі чакаць звыш сарака хвілін, аж праверыць дакументы... Ад тупой бяздзейнасці я пачала ўзірацца на ўкраінцаў, якія вярталіся з-за мяжы. Найбольш «зінтэграванымі» з Еўропай здаваліся быць маладыя дзяўчаты. Яны не адрозніваліся ад сябровак з Любліна ці Берліна. Затое старэйшыя людзі мелі свойскі выгляд, заклапочаныя і стомленыя твары і напаміналі пераапранутых вяскоўцаў. Нікога не шакіравала пляванне на асфальт ці смарканне ў рукаў.

На пагранзаставе ў Ягадзіне ўразіла мяне незвычайная табліца. Яе пачапілі ў найбольш спакушальным месцы, ля будкі мытніка; як вядома, гэтая прафесія ў народзе ўспрымаецца як сінонім хабарніцтва. Аднак тут новы ўкраінскі ўрад звяртаўся да сваіх грамадзян з заклікам інфармаваць аб усіх праявах карупцыі на мяжы, нават пра грубыя ці зняважлівыя паводзіны службоўцаў. Заахвочвалі таксама інфармаваць пра ўсе праявы хабарніцтва, якія сустрэнуць на тэрыторыі краіны. У нізе віднелі даступныя кругласутачна нумары тэлефонаў у Міністэрства скарбу. На добрую справу, я сама павінна была данесці на шафёра. Дзядзька хацеў падзарабіць. За праезд з Любліна ў Ковель ён патрабаваў ад мяне намнога больш, чым ад украінскіх цётак, якія ехалі ў Луцк, а гэта дадатковыя кіламетры і дадатковая гадзіна язды. Я напрасіла патлумачыць мне гэтую недарэчнасць. Ашаломлены шафёр спачатку не ведаў што сказаць — мая падляшская мова была яму дзіўна зразумелай і адначасова загадкавай. Не менш падазронай яму здалася маё веданне геаграфіі і адлегласцей паміж гарадамі. У рэшце рэшт ён цяжка ўздыхнуў і назваў звычайную «украінскую» цану. Праз момант я адчула сябе як у савецкія часы, калі з чужаземцаў здзіралі падвойныя або і большыя сумы...

— Даў для іх льготу, бо гэта студэнты... — пачаў тлумачыць дзядзька.

Гэта толькі пагоршыла справу, бо палічанымі студэнткамі цёткі былі нашмат старэйшыя за мяне. Былі гэта, так сказаць, жанчыны не першай ужо маладосці.

* * *

Ва Украіну езджу ўжо адзінаццаты год. Кожнае ранейшае падарожжа натхняла, адкрывала на новы досвед і ідэі. А зараз тварылася нешта незразумелае. На душу наляцеў страх. На прывакзальным рыначку ў Ковелі прывітала сюррэалістычная карцінка. Сярэдзінай базарыку гнаўся бяздомны сабака з сырой свіной ножкай у зубах. Жывёла ўхапіла здабычу з прылаўка. Здавалася, сюды, на рыначак, высыпаліся ўсе пенсіянеры горада. Свае няхітрыя тавары: бульбу, цыбулю, курыныя і гусіныя яйкі, хатні сыр, смятану і малако, аскубаныя тушкі курэй і качак, абдзёртыя са шкуры трусы, парубаныя на часткі свіні, хатняе пячэнне, пасынкі памідораў і капусты, свежыя агуркі і радыска, насенне гладыёлуса... Тавар прадавалі літаральна з зямлі. Між імі выстойвалі яшчэ бабулі з семкамі сланечніку і гарбуза. Падзенне грыўны ўдарыла па кішэні найперш пенсіянераў. Зараз іх месячная пенсія складае няцэлыя пяцьдзясят доляраў. Усё гэта адбірала ахвоту пайсці ў рэстаран і заказаць прыстойны абед. Таму проста з рынку я адразу накіравалася ў прывакзальную царкву, дзе якраз адпраўляялі суботнюю вячэрню. Проста з дарогі, у штанах і без хусткі на галаве, я спынілася перад уваходам, аднак мяне адразу заклікалі ў сярэдзіну.

— Можна ў штанах, заходзьце, калі ласка! — старэйшая цётка даслоўна ўзяла мяне за руку і павяла ў царкву.

Каб дапоўніць этыкет, я навязала на галаву хустку. У царкве былі выстаўлены лавачкі, як у касцёле, дзе выседжвалі амаль адны старэйшыя жанчыны. У адным радку я прыкмеціла жанчыну падобную на дысідэнтку Валерыю Навадворскую. Гэта быў добры момант, каб памаліцца за супакой душы расейскай інтэлектуалкі, народжанай у Баранавічах і памерлай у нявысветленых абставінах у мінулым годзе. Уразіла яшчэ пропаведзь. Маладзенькі святар прыгадаў кампазітара Іагана Себасцьяна Баха. Славуты музыкант не даў рады памерці, паколькі ў яго быў недаканчаны твор. Спачатку ён выручаўся сваім сынам, аднак таму не хапала цярплівасці. Іаган Себасцьян, адчуваючы свой блізкі канец, знайшоў у сабе сілу, падняўся са смяртэльнай пасцелі, запісаў твор і памёр...

Прыблізны сэнс сказанага быў такі: кожную пачатую справу, нягледзячы на абставіны, вы павінны давесці да канца.

У глыбі душы я чакала гэтых слоў.

* * *

Падарожжа ў палескую глыбінку на ўкраінскім баку было свайго роду рэпарцёрскім завяршэннем справы. Раней я запісала рэпартажы з Падляшша і беларускага Палесся.

Зараз, пасля здзяйснення вандроўкі, я пастаянна здзіўляюся. Пабачаны свет выглядаў як асобная, не падобная на нішто краіна. Нідзе тут не было помнікаў Бандэру і Леніну, нідзе не размаўлялі па-руску, не хвалілі Пуціна ці Парашэнкі. У палескіх вёсках, якія самі па сабе напаміналі асобныя краіны, сустрэла мяне незвычайная адкрытасць і ветлівасць людзей. Мае субяседнікі, калі распавядалі нейкую гісторыю, раптам спынялі аповед і пачыналі спяваць, каб з дапамогай старой песні прадоўжыць расказ або выказаць глыбейшы сэнс сказанага, напрыклад пра сучасную вайну. Падслуханыя на прыпынках „звычайныя" бяседы часта напаміналі літаратурныя творы. Нідзе на свеце я не наслухалася столькіх чароўных камплімэнтаў ад мужчын. Людзі праводзілі мяне на аўтобус і часта чакалі на прыпынку добрую гадзіну або дзве, калі аўтобус або маршрутка спазняліся па невядомых прычынах. Настрой бясед уражваў сваёй непрадбачанасцю і зменнасцю. Страх і надзея ішлі тут пад руку, быццам родныя брат і сястра. Калі адны наракалі на бяду і нізкія зарплаты, другія распавядалі пра новых мільянераў, якія з дня на дзень багацелі на палескім янтары. Таксама архаіка, відавочная ў архітэктуры і дыялектах, на кожным кроку пераклікалася з віртуальнасцю і мадэрнасцю. Сяляне на фурманках, якія ехалі конікам у поле садзіць бульбу, размаўлялі праз мабілкі.


У цэнтры Ковеля


Прывакзальная царква Сяргея Раданежскага ў Ковелі

Пабачаны, пачуты і пасмакаваны свет не быў мне чужы і не быў варожы. Наадварот, шмат вобразаў і аповедаў напаміналі падляшскае дзяцінства. Па палескіх дарогах супраўджалі мяне добрыя душы ў выглядзе дзелавітых бізнесменаў, інтэлігентных духоўных, непаседлівых краяведаў, звычайных цётак і дзядзькоў, амбітных фермераў, прыгожых леснікоў, заўзятых рыбакоў і гаваркіх шафёраў маршрутак. Сёння ўсё гэта здаецца асвоеным, рэальным. Аднак сама дарога ў палескую глыбінку была падшытая ядавітым страхам і здавалася заклятай...

(праця́г будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

*„Szcze ne wmerła i nie umrze" — інтэрв'ю з Юры Андруховычам, узятае Паўлам Смаленскім, выдавецтва Czarne, Wołowiec 2014.*

ISSN 0546-1960